# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(32) Жнівень 1996 August Год выд. 4


# 22-я Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбудзецца сёлета ад 31-га жніўня да 2-га верасьня ў Кліўлендзе, на селішчы «Полацак»

**Тэмы сустрэчы:** Абарона дзяржаўнасьці і дэмакратыі Беларусі і 200-годзьдзе гораду Кліўленду. Сустрэчу, як звычайна, ладзяць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады.

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ...

Каля 10,000 дэманстрантаў сабраліся ў Менску адзначыць дзень незалежнасьці Беларусі і пры гэтым выявіць адзінства паміж рознымі партыямі ў апазыцыі да Лукашэнкавай прамаскоўскай палітыкі.

Пратэстанты несьлі розныя плякаты, якія заклікалі да імпічмэнту і рэзыгнацыі прэзыдэнта. Адна група рабочых несла труну на якой было напісана "дыктатар". «Мы мусім абараняць Беларусь ад дыктатуры і прадухіліць яе ад паліцэйскай дзяржавы» — сказаў да сабраных Станіслаў Багданкевіч.

Дэманстрацыя прысьвячалася 6-ай гадавіне абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, што адбылося ў 1990 годзе.

Два дні перад дэманстрацыяй, сем (7) дасюль разрозьненых беларускіх палітычных партыяў, ад нацыяналістаў да камуністаў, разам выдалі дэклярацыю асуджаючы дзейнасьць Лукашэнкі і папераджаючы перад таталітарызмам...

## *Лідэры Беларускага Народнага Фронту ў Амэрыцы...*

Ад некаторага часу лідэры БНФ, — Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык знаходзяцца ў ЗША. Пачынаючы з Вашынгтону праз Нью Ёрк, Нью Джэрсі ды Кліўленд яны сустракаюцца з уплывовымі амэрыканскімі палітыкамі і грамадзкімі дзеячамі.

Беларуска-амэрыканскія арганізацыі і дзейныя асобы з беларуска-амэрыканскага асяродзьдзя дапамагаюць ім навязваць патрэбныя і рабочыя сувязі з высокімі палітычнымі і грамадзкімі асабістасьцямі Амэрыкі. Такім чынам прапаганда беларускае незалежніцка-адраджэнскае ідэі ў Амэрыцы праходзіць пасьпяхова і ўпэўнена...

## 50 вядучых палітыкаў Беларусі ў маі

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Май | Красавік | |
| 1. | Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 7,16 | (7,06) | Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь |
| 2. | Хадыка Юрый Віктаравіч | 5,74 | (3,02) | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту. |
| 3. | Ціхіня Валерый Гур'евіч | 4,84 | (4.92) | Старшыня Канстытуцыйнага суда. |
| 4. | Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч | 4,69 | (4,57) | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта. |
| 5. | Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч | 4,49 | (3,98) | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 6. | Пазняк Зянон Станіслававіч | 4,28 | (3,87) | Лідэр Беларускага народнага фронту. |
| 7. | Замяталін Уладзімір Пятровіч | 4,13 | (3,83) | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта. |
| 8. | Шарэцкі Сямён Георгіевіч | 4,08 | (4,43) | Старшыня Вярхоўнага Савета. |
| 9. | Ціцянкоў Іван Іванавіч | 3,92 | (4,04) | Кіраўнік спраў Прэзідэнта. |
| 10. | Агалец Валянцін Сцяпанавіч | 3,85 | (2,51) | Міністр унутраных спраў. |
| 11. | Шэйман Віктар Уладзіміравіч | 3,80 | (3,43) | Дзяржсакратар Савета бяспекі. |
| 12. | Ярмошын Уладзімір Васільевіч | 3,66 | (3,49) | Мэр Мінска. |
| 13. | Чыгір Міхаіл Мікалаевіч | 3,61 | (4,11) | Прэм'ер-міністр. |
| 14. | Віннікава Тамара Дзмітрыеўна | 3,56 | (3,15) | Старшыня Нацыянальнага банка. |
| 15-16. | Багданкевіч Станіслаў Антонавіч | 3,54 | (3,83) | Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» у Вярхоўным Савеце. |
| 15-16. | Калякін Сяргей Іванавіч | 3,54 | (3,70) | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі камуністаў. |
| 17. | Новікаў Васіль Мікалаевіч | 3,28 | (3,09) | Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя камуністаў. |
| 18-19. | Ганчар Віктар Іосіфавіч | 3,20 | (3,36) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Кіраўнік эканамічнага суда СНД. |
| 18-19. | Дабравольскі Аляксандр Альгертавіч | 3,20 | (3,17) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі. |
| 20. | Краўчанка Пётр Кузьміч | 3,10 | (3,28) | Дэпутат вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня Камісіі па міжнародных справах. |
| 21. | Гразнова Людміла Мікалаеўна | 3,00 | (1,57) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 22-23. | Сянько Уладзімір Лявонавіч | 2,97 | (3,51) | Міністр замежных спраў. |
| 22-23. | Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч | 2,97 | (2,66) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае |

... і гэтак далей...



**Спадар Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ** — старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, гарачы патрыёт і шчыры прыхільнік цеснага супрацоўніцтва ўсіх беларускіх патрыятычных плыняў для дабра беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Дарагі Расьціслаў! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

## Фронт маладзее

**Беларускі народны фронт правёў у мінулыя выхадныя палітычную канферэнцыю, на якой былі падведзены вынікі вясенніх падзеяў і вызначаны чарговыя мэты БНФ.**

Удзельнікі канферэнцыі пагадзіліся з «трыядай» бліжэйшых дзеянняў, якія вызначыла кіраўніцтва Фронту: далейшая прапаганда нацыянальнай ідэі, падрыхтоўка да восеньскіх выбараў у парламент і пашырэнне кола саюзнікаў у палітычнай барацьбе, у тым ліку шляхам паляпшэння адносін з партыямі дэмакратычнага лагеру.

На думку аглядальнікаў, фронтаўцам удалося «ўтрасці» і некаторыя пытанні ўнутранага жыцця. Напрыклад, у адсутнасць лідэра БНФ было прадэманстравана, што ў Фронце падрасла новая генерацыя кіраўнікоў, якая адрозніваецца большай цярпімасцю і палітычнай гнуткасцю. Дарэчы, у новым кансультацыйным органе (Палітычным камітэце), створаным на канферэнцыі, маладое пакаленне, хутчэй за ўсё, будзе адыгрываць значную ролю.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Дэпутат Дзяржаўнае Думы Расеі В. Ільюхін

на прэс-канфэрэнцыі 25 ліпеня 1996 г. зрабіў заяву, што быццам-бы ў Польшчы амэрыканская выведоўчая агенцыя рыхтуе супрацьдзяржаўную акцыю ў Беларусі накіраваную супраць прэз. А. Лукашэнкі. Трэба ведаць, што для таварыша Ільюхіна правакацыя — справа ня новая...

Старшыня камісіі дзяржаўнае бясьпекі пры Беларускім парлямэнце, Спадар Н. Карпіевіч сказаў, што пра такую акцыю на Беларусі ніхто ня ведае...

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## International human rights organisations meet Belarusian journalists

Representatives of the international organisation "Human Rights Watch" met with Belarusian journalists, including Vladimir Dzyuba and Tatyana Melnichuk among others, who had been persecuted for their political views, in Minsk on June 24. The trip to Belarus is to result in making an official report for the United Nations Organisation, the Council of Europe and other international organisations. This report will also be submitted to the Belarusian Cabinet of Ministers and the governments of some neighbouring states.

## Parliament introduces punishment for breaches of law by public officials

During the morning sitting of June 26 the Supreme Soviet approved a bill on the introduction of amendments into the Criminal and Criminal Practice Codes. The introduction of amendments was a corollary to the Supreme Soviet resolution in response to the Constitutional Court's message on the state of Constitutional law in the country in 1995. The bill, which was drafted by the parliamentary Committee on Legislation, envisages the punishment of officials for the failure to observe laws. In particular, the failure of an official to observe the Constitutional Court's judgements is punishable by imprisonment for a period of up to 3 years or the deprivation of the right to fill certain positions for a period of up to 5 years under the law.

## Factions initiate a joint declaration

The leader of the parliamentary faction "Civic Action", Stanislav Bogdankevich, on behalf of his faction, the faction "Union of Labour" and Agrarians' faction, has initiated the signing of a joint declaration by the Supreme Soviet, the President and the Constitutional Court. According to Mr Bogdankevich's plan, in this declaration the above-listed state bodies are to reaffirm "the indisputable supremacy of the Constitution and laws of the Republic of Belarus over any acts of the executive authorities, including decrees of the President and the Cabinet of Ministers." Mr Bogdankevich suggests that during the week following the signing all normative acts of the executive authorities which run counter to the Constitution and legislation should be revoked according to a list which will be approved by the chairmen of the Constitutional Court and Parliament.

## Belarus and Israel initial investment agreement

According to the Israeli Embassy in Minsk, Israel and Belarus have initialled an Agreement on the Mutual Protection and Encouragement of Investments. Such agreements guarantee investors' resources to be out of danger, which is extremely important in view of the crisis in the Belarusian economy. In some experts' opinion, the signing of this document will result in the establishment of new Belarusian-Israeli joint ventures and pure Israeli enterprises in Belarus.

## Military delegation to visit Israel

A delegation of the Belarusian Ministry of Defence is to visit Israel in the near future at the invitation of this country's defence department. The Belarusian delegation will be led by the deputy defence minister for armaments, Colonel Petr Rogozhevsky. The representatives of military departments of the two states are expected to discuss a number of questions concerning cooperation between Belarus and Israel in the military-technical sphere.

# ПАРТЫЙНЫЯ «ЗАРУЧЫНЫ» САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

**Працэс узбуйнення беларускіх партый, які пачаўся яшчэ ў мінулым годзе з утварэння Аб'яднанай грамадзянскай партыі на аснове Грамадзянскай і Аб'яднанай дэмакратычнай, сёлета атрымаў лагічны працяг. 29 чэрвеня ідэі сацыял-дэмакратыі максімальна зблізілі яшчэ дзве партыйныя арганізацыі краіны: Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду і Партыю народнай згоды. Як вядома, БСДГ і ПНЗ доўгі час былі ядром палітычнага і перадвыбарнага блоку «Сацыял-дэмакратычны саюз» і маюць адзіную фракцыю ў Вярхоўным Савеце.**

Спачатку кожная з партый правяла асобны з'езд, каб прыняць важнае рашэнне законным чынам, даведаўшыся думку ўсіх мясцовых арганізацый. Большасць дэлегатаў як БСДГ, так і ПНЗ падтрымалі ідэю аб'яднання, хаця былі і тыя, хто рэзка выказаўся супраць. Напрыклад, былы лідэр «грамадоўцаў» Алег Трусаў лічыць, што пасля аб'яднання БСДГ згубіць сваю самабытнасць і свой ранейшы твар. А «згодавец», дэпутат Вярхоўнага Савета Уладзімір Нісцюк мяркуе, што ў выніку аб'яднання ПНЗ будзе паглынута Грамадой.

Тым не менш, падобныя пазіцыі асобных дэлегатаў не паўплывалі на канчатковы вынік абодвух з'ездаў. Статут і праграма новай партыі створаны на аснове праграмных дакументаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, дзе ідэі сацыял-дэмакратыі сфармуляваны больш дасканала і канкрэтна. На агульным аб'яднаўчым з'ездзе было абрана і кіраўніцтва новай арганізацыі, якая, дарэчы, атрымала назву Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада», былі абраны кіруючыя і выканаўчыя органы: Цэнтральны камітэт і Выканаўчае бюро. На чале камітэта стаяць лідэры дзвюх партый: Мікалай Статкевіч і Леанід Сечка. Каб паміж імі не ўзнікала спрэчак, адразу ж былі падзелены і іх функцыі. Такім чынам Леанід Сечка засяродзіцца на парламенцкай дзейнасці партыі і па-ранейшаму будзе ўзначальваць фракцыю «Саюз працы», а Мікалай Статкевіч зоймецца пазапарламенцкім жыццём арганізацыі. Дарэчы, на з'ездзе ПНЗ змяніла ранейшую назву на Сацыял-дэмакратычную партыю. Па-першае, такім чынам партыя хоча дыстанцыяніравацца ад фракцыі «Згода» і пазбегнуць блытаніны на выбарах, а па-другое, адкрыта заяўляе пра сацыял-дэмакратычны накірунак дзейнасці.

Як сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» Мікалай Статкевіч, працэс аб'яднання яшчэ рана лічыць закончаным. Справа ў тым, што аб'яднаўчы з'езд можна у нейкім сэнсе параўнаць з заручынамі. Яшчэ некаторы час самастойнае жыццё партый будзе замарожана, але арганізацыі не будуць ліквідаваны. Гэта патрэбна для падрыхтоўкі праграмных дакументаў, праходжання фармальных працэдур у Міністэрстве юстыцыі, звязаных з рэгістрацыяй партыі, а таксама для вызначэння магчымасці суіснавання арганізацый. Канчатковая ліквідацыя БСДГ і ПНЗ (зараз ужо СДП) адбудзецца пасля закачэння восеньскіх давыбараў у парламент 15 снежня бягучага года.

Як стала вядома, ужо з'явіліся і першыя жадаючыя ўступіць у новую партыю. Сярод іх, у прыватнасці, экс-спікер беларускага парламента, дэпутат Мечаслаў Грыб.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# Вобраз Беларусі не можа быць адарваны ад яе тысячагадовай гісторыі

Кожны цывілізаваны народ імкнецца стварыць сваю дзяржаву, бо толькі ў ёй можна дасягнуць поўнага эканамічнага і культурнага росквіту.

Кожная дзяржава мае свае сімвалы, свае своеасаблівыя візітныя карткі, па якіх заўжды можна хутка адрозніць ад іншых краін. Акрамя герба, сцяга і гімна шмат якія краіны вызначаюцца на міжнароднай арэне і ў паўсядзённым жыцці сваімі унікальнымі помнікамі архітэктуры.

Малюнкі гэтых помнікаў аздабляюць розныя рэкламныя вітрыны, іх выявы займаюць не апошняе месца на паштовых марках, паштоўках, металічных і папяровых знаках грашовай аплаты, узнагародах, турыстычных буклетах і картах.

Прычым кожная краіна мае адзін-два асноўных помніка-сімвала і некалькі рэгіянальных, альбо гістрычных, звязаных з нейкай вельмі важнай падзеяй у гісторыі гэтай дзяржавы. Адначасова мае свой сімвал і кожная дзяржаўная сталіца. Ён, дарэчы, можа супадаць ці не супадаць з асноўным сімвалам усёй краіны, але заўжды з'яўляецца адной з вызначальных прыкмет.

Сімвалам Расіі і яе сталіцы даўно лічыцца Маскоўскі Крэмль, прычым даволі часта ўжываецца толькі адзін элемент гэтага помніка архітэктуры — Спаская вежа з гадзіннікам. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі амаль кожны жыхар Расіі і ўсяго СССР добра ведаў Зімні Палац у Санкт-Пецярбургу і нават крэйсер "Аўрору" — помнікі гісторыі і культуры, цесна звязаныя з гісторыяй Расіі XX стагоддзя.

Тую ж тэндэнцыю можна прасачыць і ў гісторыі Францыі. Старажытны сімвал краіны сабор "Парыжскай божай маці" спачатку быў дапоўнены выявай "Бастыліі" — сімволікай Французскай рэвалюцыі XVIII стагоддзя, а потым вобраз Парыжа і Францыі стаў неаддзельным ад абрысаў Эйфелевай вежы.

Пасля таго, як Беларусь зноў стала незалежнай краінай, ёй патрэбна таксама мець свае асноўныя і дадатковыя сімвалы, увасобленыя ў помніках архітэктуры і гісторыі. У савецкі перыяд сімваламі БССР былі ў нейкай ступені курган Славы пад Мінскам, Дом ураду і, вядома, помнік Леніна на цэнтральнай плошчы беларускай сталіцы. Праўда, у апошнія часы існавання БССР на ролю сімвала Мінска стаў прэтэндаваць будынак "Чырвонага касцёла", які на шматлікіх паштоўках меў сціплы подпіс "Дом кіно".

І гэта ў той час, як сімвалам Літоўскай ССР была вежа Гедыміна з дзяржаўным сцягам наверсе, Латышскай ССР і горада Рыгі — славуты Домскі сабор XIII стагоддзя, а Украіны і Кіева — Кіеўская Сафія XI стагоддзя.

Зараз, каб уся еўрапейская і сусветная супольнасць магла вызначаць Беларусь як краіну ўсходняй Еўропы з тысячагадовай гісторыяй, беларускія мастакі, дызайнеры і іншыя дзеячы нашай навукі і культуры павінны вызначыць і стварыць вобраз нашай краіны праз выявы і абрысы найбольш вядомых і каштоўных помнікаў айчыннага дойлідства.

Адным з такіх помнікаў можа стаць Полацкая Сафія, збудаваная 930 год назад, — першы мураваны будынак на тэрыторыі Беларусі. У мінулым годзе адзначыў сваё 500-годдзе славуты Мірскі замак, які зараз пасляхова аднаўляецца. Яго выява ўжо ёсць на беларускіх марках і нават на прыватызацыйных чэках "Маёмасць". Знаходзіцца замак у цэнтры краіны, мае добрыя пад'ыходы і пад'езды і зможа стаць цэнтрам міжнароднага турызма.

Выява Камянецкай вежы XIII стагоддзя ў якасці вадзянога знака ўжо трапіла на разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі, яна адлюстравана на шматлікіх сувенірных вырабах, паштоўках і паштовых марках.

У якасці сімвала Мінска можна і надалей выкарыстоўваць выяву касцёла св.Сымона і Алены, які неўзабаве адзначыць сваё стагоддзе.

Такім чынам, візітнымі карткамі Беларусі ў XXI стагоддзі могуць стаць Полацкая Сафія, Камянецкая вежа і Мірскі замак. Цяпер справа за мастакамі, пісьменнікамі, архітэктарамі і дызайнерамі. Вобраз новай еўрапейскай дзяржавы не можа быць адарваны ад яе тысячагадовай гісторыі.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры.**



...Мы лукашэнкаўцы з братняю Русьсю
Разам узновім агульны бярлог.
У бітвах расправімся мы з Беларусьсю,
І пабудуем саюзны астрог...

Выконвае хор «Вэртыкальшчыкі»







Рисунок Андрея СКРЫННИКА.

# АПЯРЭДЗІЦЬ НАВАЛЬНІЦУ

**Рабочыя хваляванні на некаторых прамысловых прадпрыемствах — трывожны сімптом**

Некалькі забастовак, якія адбыліся на мінулым тыдні на буйных прамысловых прадпрыемствах Беларусі — мінскім «БелВАРы», віцебскім «Маналіце» і Гомельскім заводзе вымяральных прыбораў — трывожны сімптом і папераджальны сігнал для ўладаў.

Гэтыя забастоўкі сталі выражэннем стыхійнага пратэсту працоўных калектываў, рэакцыяй на катастрафічную сітуацыю з выплатай зарплаты. Паводле інфармацыі, якая паступала ў гэтыя дні з баставаўшых прадпрыемстваў, да арганізацыі акцый пратэстаў не маюць дачынення ні апазіцыйныя палітычныя партыі, ні незалежныя прафсаюзы. Гэты факт — асабліва сур'ёзная падстава для таго, каб урад у бліжэйшы час прыняў кардынальныя меры ў сферы эканомікі. Стыхійныя адзінкавыя хваляванні на прадпрыемствах — відавочна, першыя водбліскі блізкай навальніцы.

Мала хто чакаў, што пратэсты ў рабочым асяроддзі пачнуць праяўляцца ўлетку, у разгар водпускаў. Тым не менш, гэта адбылося і адбываецца. Малаверагодна, што хваля забастовачнага руху ў бліжэйшыя тыдні будзе нарастаць. Аднак тое, што негатыўная небяспечная энергія нездаволенасці і пратэсту на дзесятках і сотнях беларускіх прадпрыемстваў нарастае і яе канцэнтрацыя дасягае выбухованебяспечных памераў — відавочны факт. Прагнозы апазіцыйных сіл і прафсаюзаў адносна таго, што сёлетняя восень ператворыцца ў забастовачную і мітынговую, у гэтым кантэксце выглядаюць праўдападобнымі і рэальнымі.

Пакуль што ўрад і адміністрацыя прадпрыемстваў спрабуюць гасіць канфлікты з дапамогай тэрміновых крэдытаў, якія цэнтралізавана выдаткоўваюцца бастуючым заводам. Аднак такая тактыка, пры ўсёй яе знешняй эфектыўнасці, вельмі небяспечная. Залатаўшы адну дзірку, можна нарабіць мноства іншых. Убачыўшы, што сілавы ціск на ўлады дае хуткі жаданы эфект, да аналагічных акцый пратэсту могуць звярнуцца дзесяткі іншых прадпрыемстваў, якія пакуль што церпяць і ўстрымліваюцца ад забастовак, хоць становішча на іх зусім не лепшае, чым на «БелВАРы» ці «Маналіце».

Да таго ж, браць грошы на пагашэнне запазычанасці па зарплаце дзяржаве проста няма адкуль. Заводы самі павінны зарабляць сродкі на сваё існаванне, прадаючы ўласную прадукцыю, а не перагружаць склады нікому не патрэбнымі, дарагімі і няякаснымі таварамі, выраблёнымі толькі дзеля таго, каб адрапартаваць уладам, што іх указанне не зніжаць аб'ём вытворчасці выканана.

Беларускаму ўраду ў сённяшняй сітуацыі наўрад ці выпадае наладжваць сабе летнія вакацыі. Застаецца ўсяго некалькі месяцаў, каб папярэдзіць магчымы надзвычай неспрыяльны ход падзей. Гэтага часу, зразумела, недастаткова, каб карэнным чынам змяніць сітуацыю і палегчыць становішча рабочых. Аднак яго цалкам хапае для таго, каб пачаць выходзіць з тупіка, абазначыць шлях, які вядзе з крызісу; перастаць падманваць сябе і людзей, што магчыма вяртанне назад, што рэальны нейкі іншы выхад, акрамя рэфармавання сістэмы ўласнасці, пераходу на сусветныя стандарты ў тэхналогіі і якасці і — цяжкога пераходнага перыяду, які вядзе да жаданай мэты.

Людзі нашы цярплівыя — падтрымаюць і згодзяцца пацярпець яшчэ, калі толькі павераць, што іх не падманваюць і вядуць сапраўды туды, куды варта ісці.

**Валянцін ЖДАНКО.**



Сп. Расьціслаў Завістовіч з прэзыдэнтам Клінтанам і vice-прэзыдэнтам Горам у Белым Доме.

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

June 25, 1996

Mr. Russell Zavistovich
President
Belarusian Congress Committee of America
724 West Tantallon Drive
Fort Washington, MD 20744

Dear Mr. Zavistovich:

On behalf of President Clinton and Vice President Gore, I want to thank you for your participation in the White House events in "Celebration of Ethnic America" on June 14, 1996.

Enclosed is a commemorative photograph of your visit with the President and Vice President. Feel free to share this photograph in your community. In the next month, you will receive a signed copy for your personal keep-sake.

Please keep me informed of your activities and events so the President and Vice President can continue their support. I can be reached by phone (202) 456-5174, fax (202) 456-6218, or e-mail at DIGIACOBBE_M@A1.EOP.GOV.

Thank you again for helping make the day a success. I look forward to our continued work.

Sincerely,

Marilyn DiGiacobbe
Associate Director
Office of Public Liaison

BOB DOLE
WASHINGTON, DC

May 6, 1996

Paul Wasilewski
4301 East 72nd Street
Cleveland, Ohio 44105-5703

Dear Paul:

I can't thank you enough for your help during my recent visit to Cleveland. You will never know how much your support means to me. My visit to Ohio would not have been as successful as it was were it not for the hard work of many people like you.

I am very grateful to have you and other Republicans working with me to rein in the federal government and reassert American leadership abroad. My campaign is about leadership and experience, and I am glad that you're part of it.

Again, thank you for your help and support.

Sincerely,

BOB DOLE

# Калі ў краіне ёсць хоць адзін нацыяналіст, яе нельга зняволіць

**Думкі, з якімі падзяліліся дэпутаты ўкраінскага парламента Юрый Тыма і Яраслаў Ілясевіч на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

### Чаму яны прыехалі да нас?

Калі ў суседа гора — нельга не зайсці. Беларусь кроватачыць мітынгамі. Да таго ж і ў Беларусі, і на Украіне кожны метр паліты крывёю мінулай вайны. Таму 22 чэрвеня і для беларусаў, і для украінцаў — дзень смутку і трагедыі.

Украінцы з непакоем сочаць за тым, як уцягваюць Беларусь у імперыю. Такі сцэнарый можа чакаць і Украіну. Але ж "воссоединение" з Расіяй вельмі нявыгаднае. Радуе, што на Беларусі пачаўся рух нацыянальных сіл. На думку дэпутатаў, беларусам і ўкраінцам трэба разам змагацца за свабоду.

### За што любяць нацыяналістаў?

Украінскія дэпутаты падкрэслілі, што калі ў якой краіне ёсць хоць адзін нацыяналіст, яе нельга зняволіць. Бо ён, не шкадуючы жыцця, будзе яе бараніць.

Госці расказалі ўкраінскі анекдот. Жонка пытае ў мужа-нацыяналіста, каго ён любіць больш за ўсё. "Украіну, — адказаў той і дадаў: — потым цябе".

### Што такое УНСО?

Па словах дэпутатаў, гэта тая арганізацыя, якая грудзьмі стане на абарону Украіны, калі ўзнікне такая патрэба. Падобнай надзеі на армію няма. УНСО — даволі паважаная арганізацыя на Украіне, у якую людзі звяртаюцца, як у апошнюю інстанцыю, калі ўжо нідзе не атрымалі падтрымкі. Яна створана ў дні ГКЧП і ўжо тады рашуча выступіла за свабоду сваёй дзяржавы.

Чаму яна такая моцная? Ды таму, што адзін нацыяналіст у баі роўны батальёну. Прыклад Чэчні ў гэтым яскрава пераконвае.

### Дудаеў і Украіна

У Львове ёсць вуліца імя Дудаева. Кіяўляне таксама збіраюцца назваць адну з магістралей імем прэзідэнта Чэчэнскай Рэспублікі. Ды і як жа: Дудаеў ахвяраваў сваім жыццём дзеля суверэнітэта Чэчні, дзеля свабоды свайго народа.

### Чаму Кучма не звоніць Лукашэнку?

Дэпутаты лічаць, што Лукашэнка выпусціў бы украінскіх грамадзян з мінскага следчага ізалятара на другі дзень, калі б яму пазваніў і папрасіў аб гэтым прэзідэнт Кучма ці хто-небудзь з кіраўнікоў Украіны. Але, на думку дэпутатаў, яны гэтага не хочуць рабіць, бо баяцца сапсаваць свой імідж.

### Чэчня і затрыманыя ўкраінцы

Украінскія дэпутаты паведамілі, што кіраўнікі Чэчні збіраюцца прапанаваць Расіі цікавы абмен ваеннапалонных. Чэчэнцы выпускаюць рускіх палонных салдат, а Расія "вызваляе" затрыманых у Мінску ўкраінцаў. Гэтым фактам яны хочуць паказаць, хто сапраўды кіруе ўжо Беларуссю.

### Пра пятую калону Расіі

Кампартыя Украіны — гэта, па-сутнасці, не кампартыя, а пятая калона Масквы на Украіне.

### Анекдот, які Кучма расказаў прэзідэнту Польшчы

Супрацоўнікі службы бяспекі дакладваюць Ельцыну:

— Зюганаў набраў 55 працэнтаў галасоў. Але вы не хвалюйцеся. У вас будзе болей.

### Хто лепей: Ельцын ці Зюганаў?

Хто б з іх не прыйшоў да ўлады, будзе імкнуцца правіць Украінай і Беларуссю, як Кацярына I і Мікалай II.

### Ці доўга пратрымаецца рэжым Лукашэнкі?

Па прыкідках аналітычных цэнтраў Украіны — не, надоўга. Па-першае, няма грошай, а падругое — такі партнёр не патрэбен Расіі і яна будзе імкнуцца замяніць яго на больш дэмакратычнага.

**Алесь ДРАБЧУК.**

***

*У гарадской лазні:*

*— Паслухайце, чаму вы стаіце пад душам з парасонам?*

*— Ды я забыўся дома ручнік!*

***

*— Паслухай,— звяртаецца муж да жонкі,— чаму цябе суседзі называюць ідыёткай?*

*— А што тут дзіўнага? Калі б ты быў генералам, называлі б генералíхай.*

# Заява Грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі

Нашай дзяржаве пагражае небяспека — страта незалежнасці. Сённяшняе кіраўніцтва, няздольнае вывесці краіну з глыбокага эканамічнага крызісу, імкнецца схаваць сваё бяссілле ў далучэнні Беларусі да Расіі і ў рэанімацыі былой савецкай імперыі — СССР. З гэтай мэтай захоўваюцца на нашай зямлі расійскія вайсковыя аб'екты, зліквідаваныя ўсходняя мяжа і мытні, падпісаны рабаўнічыя эканамічныя пагадненні.

Адначасна вядзецца франтальны наступ на галоўныя нацыянальна-вызначальныя каштоўнасці беларускага народа і асноўныя чыннікі дзяржавы — мову, культуру, гісторыю, нацыянальныя сімвалы. Інтэнсіўна знішчаецца беларуская школа і ўся сістэма выхавання і асветы, беларуская мова выцясняецца з усіх сфер ужытку, перапісваюцца на імперскі лад школьныя падручнікі — нішчыцца гістарычная памяць; робіцца ўсё для разбурэння нацыянальнай самасвядомасці народа.

Ганебнай праявай гэтага наступу стаў інспіраваны антыбеларускімі шавіністычнымі сіламі майскі "рэферэндум", праведзены з відавочнымі парушэннямі Канстытуцыі і законаў дзяржавы, па пытаннях, па якіх нідзе ў цывілізаваным свеце народнае апытанне немагчыма. Але нават в ўмовах бесаромнага гвалту над дэмакратыяй, афіцыйнага ўціску, кампаніі хлусні і падману ў сродках масавай інфармацыі больш за палову выбаршчыкаў выказалася за захаванне ў якасці дзяржаўных сімвалаў гістарычнай Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга. Вынікі гэтага "рэферэндуму" не зацверджаныя Вярхоўным Саветам і не маюць юрыдычнай сілы. Таму герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг адпаведна закону ад 19 верасня 1991 года з'яўляюцца афіцыйнымі дзяржаўнымі сімваламі Беларусі. Гвалтоўнае насаджэнне прэзідэнцкай сімволікі ў краіне незаконнае.

Гэтая фактычна нязмененая БССРаўская сімволіка, абразлівая і зневажальная для нашага народу, дае свету лжывае ўяўленне пра народ і краіну. Створаная насуперак законам геральдыкі і эстэтыкі, яна пазбаўлена ўсялякага сэнсу. Нездарма ж прэзідэнтам на смех усяму свету абвешчаны конкурс на патлумачэнне ягоных сімвалаў. Марная справа, марная трата сродкаў.

Нацыянальную сімволіку нельга стварыць штучна, немагчыма і адмяніць яе загадам. Яна — выяўленне духу народа і мастацкае ўвасабленне народных эстэтычных і маральных каштоўнасцей.

Гісторыя нашай Айчыны асвечана спрадвечнымі нацыянальнымі сімваламі — гербам Пагоня і бел-чырвона-белым сцягам. Наша Пагоня — адзін з самых старажытных дзяржаўных гербаў у Еўропе і свеце. Яго ўзнікненне сягае ў глыбокую мінуўшчыну нашага народа. Летапіс зазначыў, што 700 гадоў таму, у канцы XIII стагоддзя, ён набывае статус дзяржаўнага. "Рыцар збройны на кані" сімвалізуе абаронцу Бацькаўшчыны, сведчыць пра нязменную прагу нашага народа да Волі і Незалежнасці. На шчыце вершніка размешчаны залаты шасціканцовы крыж — сонечны знак Ярылы, сімвал веры нябеснай заступніцы Беларусі — Еўфрасінні Полацкай.

Белы і чырвоны — пракаветна-сакральныя, улюбёныя колеры беларусаў. Чырвоная паласа на бялюткім тле палотнішча сцяга — гэта суладдзе чысціні і мужнасці, знак ахвярных Хрыстовых пакут, след праліты за Волю рыцарскай крыві.

Нашы герб і сцяг — высокі ўзор эстэтыкі і мастацкай дасканаласці — яскравае сведчанне творчага генію народа.

Пад гэтымі святымі сімваламі нашы продкі здабылі найбуйнейшыя свае перамогі: на Сініх Водах і пад Грунвальдам, пад Оршай і на рацэ Вуле, пад Кірхгольмам і Хоцінам. Гэтыя сімвалы лунали над паўстанцамі Якуба Ясінскага, вялі на бой за незалежнасць Бацькаўшчыны касінераў Кастуся Каліноўскага, пад імі гінулі жаўнеры гераічнага Слуцкага Збройнага Чыну.

Усведамляючы надзвычайную важнасць нацыянальных гістарычных сімвалаў для захавання і ўмацавання незалежнасці дзяржавы, развіцця самасвядомасці нацыі, для гістарычнай будучыні народа, мы, прадстаўнікі патрыятычнай грамадскасці Беларусі, аб'ядноўваемся ў Грамадскі камітэт абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі.

Камітэт ставіць мэты:

— цывілізаванымі, не супярэчнымі законам краіны сродкамі, дасягнуць аднаўлення ў якасці дзяржаўных нацыянальных гістарычных сімвалаў герба Пагоня і бел-чырвона-белага сцягу;

— забяспечваць пастаянную прысутнасць нацыянальных гістарычных сімвалаў у жыцці краіны і народа;

— прапагандаваць нацыянальныя гістарычныя сімвалы, ажыццяўляючы асветную, даследчую, выставачную, выдавецкую ды іншую дзейнасць.

Камітэт абвяшчае 1996 год у Беларусі годам герба Пагоня і прапануе ўсім патрыятычна-дэмакратычным сілам, грамадскім і палітычным арганізацыям краіны правесці ў гэтым годзе святкаванне 700-х угодкаў яго дзяржаўнасці.

Камітэт звяртаецца да дэпутатаў Вярхоўнага Савету з заклікам не зацвярджаць вынікаў ганебнага майскага рэферэндуму, стварыць парламенцкую камісію па разглядзе адпаведнасці сфармуляваных пытанняў рэферэндуму Канстытуцыі і законам Беларусі, расследавання парушэнняў заканадаўства пры правядзенні рэферэндуму.

Камітэт заклікае ўсіх, каму дарагія незалежнасць Айчыны і яе гістарычныя сімвалы, далучыцца да Камітэта дзеля дасягнення ягоных мэт.

Мы перакананы, што наша Бацькаўшчына пераадолее ўсе нягоды і паўстане незалежнай, дэмакратычнай, квітнеючай краінай з вольным, годным, працавітым, заможным народам!

**Жыве Беларусь!**

**Жывуць яе спрадвечныя сімвалы — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг!**

**А.Грыцкевіч**, доктар гістарычных навук, прафесар, **М.Крукоўскі**, доктар філасофскіх навук, прафесар, **Г.Штыхаў**, доктар гістарычных навук, прафесар, **У.Конан**, доктар філасофскіх навук, літаратар, **Я.Юхо**, доктар юрыдычных навук, прафесар, **Васіль Быкаў**, народны пісьменнік Беларусі, **Мікола Савіцкі**, прафесар, старшыня Мінскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, **У.Кулажанка**, доктар эканамічных навук, прафесар, **А.Саламонаў**, доктар тэхнічных навук, прафесар, **Янка Брыль**, народны пісьменнік Беларусі, **Рыгор Барадулін**, народны паэт Беларусі, **М.Біч** , доктар гістарычных навук, **В.Шматаў**, доктар мастацтвазнаўства, **Ніл Плевіч**, народны паэт Беларусі, **Л.Лыч**, доктар гістарычных навук, прафесар, **Р.Гарэцкі**, акадэмік, доктар геалагічных навук, прафесар, прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына", **Р.Ганчарова**, доктар біялагічных навук, загадчык лабараторыі Інстытута генетыкі, **І.Нікітчанка**, член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, **М.Раманюк**, прафесар, заг. кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў БелАМ, **Л.Казлоў**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, галоўны рэдактар "Вялікага гістарычнага атласа Беларусі", **Я.Бокун**, доктар тэхнічных навук, прафесар, **С.Сідор**, доктар педагагічных навук, прафесар БДУ, **М.Ермаловіч**, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Анатоль Вярцінскі**, пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, **Н.Аксёнчык**, кандыдат філалагічных навук, **А.Трусаў**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, **В.Асташынскі**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, **Вольга Іпатава**, пісьменніца, **А.Лозка**, кандыдат філалагічных навук, **В.Мазец**, кандыдат гістарычных навук, **М.Якаўлеў**, кандыдат тэхнічных навук, **Генадзь Бураўкін**, паэт, **П.Садоўскі**, кандыдат філалагічных навук, **А.Цітоў**, дацэнт БДУ, **У.Мархель**, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, **Л.Мірачыцкі**, кандыдат гістарычных навук, **В.Мароз**, кандыдат філалагічных навук, **А.Марачкін**, мастак, дацэнт БелАМ, **А.Астапенка**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, **М.Купава**, сябра Саюза мастакоў Беларусі, **Уладзімір Арлоў**, пісьменнік, **Сяргей Законнікаў**, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Я.Купалы, **Т.Сухая**, дацэнт кафедры вышэйшай матэматыкі БДПА, **В.Юфераў**, дацэнт кафедры вышэйшай матэматыкі БДУІР, **Эрнест Ялугін**, пісьменнік, **В.Каваленка**, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, **М.Анцыповіч**, дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі, **Ірына Багдановіч**, пісьменніца, кандыдат філалагічных навук, **В.Кошалеў**, кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт Мінскага медыцынскага інстытута, **А.Літвіновіч**, кандыдат філалагічных навук, **С.Запрудскі**, супрацоўнік часопіса "Нёман", **Л.Калядзінскі**, дацэнт БДПА, ст. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **М.Чарняўскі**, кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела Інстытута гісторыі АН Беларусі, **І.Ганецкая**, кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **А.Мядзведзеў**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **Э.Зайкоўскі**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **Л.Дучыц**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **М.Лашанкоў**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **В.Вяргей**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **Г.Ганчарова**, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, **А.Мотуз**, старшы лабарант аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, **В.Шадыра**, загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, **А.Станкевіч**, дырэктар фірмы "Новые технологии", кандыдат эканамічных навук, **Алесь Жук**, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа.

# Зьезд мастакоў пра сімволіку: нацыянальную і "абсурдную"

**XV зьезд Беларускага Саюзу мастакоў, які адбыўся ў Менску, быў адметны тым, што ягоныя дэлегаты абмяркоўвалі выключна прафэсійныя праблемы і не закранaлі палітычную сітуацыю ў краіне. Тым больш яскрава выглядае прынятая дэлегатамі зьезду рэзалюцыя "Аб дзяржаўнай сімволіцы Рэспублікі Беларусь".**





У заяве адзначаецца, што (цытуем): "14 траўня гэтага года ў нашай краіне адбыўся антыканстытуцыйны, ініцыяваны антыбеларускімі сіламі, так званы рэфэрэндум, на які былі вынесеныя пытаньні, па якіх нідзе ў цывілізаваным сьвеце ўсенароднае апытаньне не праводзіцца.

Абставіны, у якіх праходзіла гэтая правакацыйная, разбуральная для нашае дзяржавы акцыя, не даюць падставаў лічыць прыгаданы рэфэрэндум свабодным волевыяўленьнем народа. На кампанію зьняслаўленьня дзяржаўнай сімволікі і дэмакратычнага руху былі кінутыя ўсе шавіністычныя сілы і велізарныя сродкі. Былі створаныя адпаведнай скіраванасьці фільмы, радыёперадачы. Тэлебачаньне, радыё і старонкі прэсы былі прадстаўленыя толькі прэзідэнту і ягонай камандзе, выпушчаны мільёнными накладамі плакаты, улёткі і іншае.



І нават у такіх умовах за пытаньне пра зьмену дзяржаўнае сімволікі прагаласавала менш за палову выбаршчыкаў. Акрамя таго, вынікі "рэфэрэндуму" не былі зацьверджаныя Вярхоўным Саветам і па сёньняшні дзень ня маюць юрыдычнай сілы. Таму герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сьцяг застаюцца дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь. Прэзідэнцкая, крыху падпраўленая БССРаўская сімволіка, створаная насуперак усіх законаў геральдыкі і эстэтыкі, ня можа не абражаць нацыянальных пачуцьці народа і стварае ў сьвеце ілжывае, скажонае ўяўленьне пра нашую краіну і народ. Карта Беларусі, узьнесеная над зямным шарам -- гэта прымітыўная праява імпэрскага шавінізму, перанесеная на нашую краіну.

Па ўсёй Беларусі сёньня інтэнсіўна насаджаецца, масава тыражуецца гэтая абсурдная сімволіка, і да гэтага працэсу, як і да стварэньня выяваў прэзідэнцкай сімволікі, прычыніліся, на жаль, некаторыя мастакі. Мы перакананыя, што асьвечаную вякамі гістарычную сімволіку Беларусі ніякімі ўказамі ці рэфэрэндумамі не адмяніць. Яна жыла, жыве сёньня і будзе жыць, пакуль існуе наш народ.

Сёньня, калі ў Беларусі ўсталявана дыктатура, калі над нашай краінай навісла рэальная пагроза страты дзяржаўнасьці, ідзе шалёны наступ на мову народа і нішчыцца беларуская школа, культура, гістарычная памяць, мы перакананыя ў неўміручасьці і жыватворнасьці справы нашага нацыянальнага Адраджэньня. Заклікаем працаўнікоў культуры, дзеячаў мастацтва заняць сваё належнае месца ў адраджэньні Бацькаўшчыны", -- гаворыцца ў заяве зьезду Саюзу мастакоў.

Паказальна, што толькі чатыры дэлегаты не пажадалі галасаваць за гэтую заяву.

Павет

## Да Заявы Грамадзкага камітэту абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сымволікі

з прыемнасьцю і вялікай ахвотай далучаецца ўся беларуская патрыятычная дыяспара са сваімі палітычнымі, рэлігійнымі, грамадзкімі і навуковымі арганізацыямі ды ўстановамі. Бальшавіцка-сталінскія "флаг і герб" — зьява часовая. Гэтыя атрыбуты розных прахадзімцаў і бальшавікоў-інтэрнацыяналістаў зьнікнуць з твару беларускае зямлі, так як зьнікне і сам сталінізм-бальшавізм.

Над Беларусьсю запануюць сымвалы Пагоні і бел-чырвона-белага сьцягу. Пра гэта мы будзем клапаціцца, за гэта мы будзем бесперапынна змагацца аж да часу, калі ізноў беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня горда залунаюць над беларускай зямлёю. **Жыве Беларусь!**

Замежная Беларуская Еднасьць.

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

## Генадзь КАРПЕНКА:

# «ЭКАНАМІЧНАЯ СТАБІЛІЗАЦЫЯ ПАСАДЗЕЙНІЧАЕ І ПАЛІТЫЧНАЙ СТАБІЛІЗАЦЫІ Ў НАШЫМ ГРАМАДСТВЕ»



***На пытанні «Звязды» адказвае намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Генадзь Карпенка. Тэмай размовы сталі апошнія эканамічныя і палітычныя ініцыятывы Вярхоўнага Савета і праблемы, якія апошнім часам выклікаюць у нашым грамадстве найбольшы рэзананс.***

**— Генадзь Дзмітрыевіч, у апошні месяц у Вярхоўным Савеце было вылучана некалькі прапаноў па эканамічнай праблематыцы, у прыватнасці, па распрацоўцы праграмы стабілізацыі на парламенцкіх слуханнях на эканамічную тэматыку запрашаецца выступіць з дакладам Прэзідэнт. У чым сутнасць падыходаў Вярхоўнага Савета да вырашэння нашых эканамічных праблем?**

— Вярхоўны Савет мае намер закончыць сваю сесію разглядам цэлага блока законапраектаў па эканоміцы. Гэта будзе рабіцца з 18 чэрвеня да 1 ліпеня. Па-першае, мы вынесем на абмеркаванне канцэпцыю стабілізацыі нашай эканомікі. Дзеля гэтага мы звяртаемся да Прэзідэнта нашай краіны і прэм'ер-міністра з прапановай самым сур'ёзным чынам паўдзельнічаць у абмеркаванні гэтай канцэпцыі. У адпаведнасці з 100-м артыкулам Канстытуцыі Прэзідэнт павінен у пачатку года выступаць з дакладам аб сваім бачанні эканамічнага і палітычнага курсу нашай краіны. Гэтае пытанне ўключана ў парадак дня Вярхоўнага Савета, аднак вось ужо заканчваецца першая сесія, а такога выступлення, на жаль, не было. Таму менавіта пры разглядзе канцэпцыі эканамічнай стабілізацыі і эканамічнага развіцця нашай краіны мы звяртаемся да выканаўчых органаў з прапановай прыняць у гэтым абмеркаванні самы шырокі ўдзел. Мы цудоўна разумеем, што сёння Вярхоўны Савет не можа далей працаваць у адрыве ад выканаўчай улады, асабліва над эканамічнымі законапраектамі.

На жаль, у нашай рэспубліцы стан эканомікі рэзка пагаршаецца: ідзе невыкананне асноўных паказчыкаў, рэзка зніжаюцца аб'ёмы вытворчасці. Мы разумеем, што самі па сабе законы, якія не будуць рэалізоўвацца выканаўчай уладай, так і застануцца паперай. Адбудзецца як бы праца на паліцу. Але працаваць на паліцу ў сённяшніх умовах ні парламент, ні выканаўчыя структуры не маюць права. Таму акрамя разгляду асноўных законапраектаў, што напрацаваны ў нашых камісіях, мы і звяртаемся да прэм'ер-міністра з прапановай стварыць сумесныя рабочыя групы па распрацоўцы законапраектаў, якія будуць вызначаць твар эканомікі нашай краіны.

Хачу падкрэсліць, што за паўгода работы Вярхоўнага Савета мы практычна не атрымалі ніякіх законапраектаў ад выканаўчай улады, якія б вызначалі курс развіцця эканомікі нашай дзяржавы. Ад імя ж Вярхоўнага Савета падрыхтавана звыш 20 законапраектаў, якія, на наш погляд, з'яўляюцца вызначальнымі для нашай эканомікі. Акрамя таго, створана рабочая група з ліку супрацоўнікаў Вярхоўнага Савета, дэпутатаў, у іх уключана вялікая колькасць спецыялістаў і з навукова-прамысловай асацыяцыі і з прафсаюзаў, камерцыйных структур. І мы звяртаемся з просьбай да кіраўніцтва ўрада разгледзець гэтыя законапраекты і прапановы па расшырэнню саставу рабочых груп за кошт работнікаў Кабінета Міністраў і ўнесці свае прапановы па канкрэтных законапраектах, якія, на думку ўрада, павінны быць першачаргова разглядацца на другой сесіі Вярхоўнага Савета.

Нам нельга больш цягнуць час, раскачвацца, бо адказнасць за эканоміку і жыццёвы стан людзей у аднолькавай ступені кладзецца як на выканаўчую, так і на заканадаўчую ўлады.

**— Назавіце, якія канкрэтна гэтыя законапраекты?**

— Назаву некалькі такіх законапраектаў. Па-першае, па праблемах падаткаабкладання. Як мы мяркуем, самі падатковыя стаўкі, павінны быць зменшаны прыкладна на 20 працэнтаў. Акрамя таго, не менш чым стаўкі трывожыць вытворцаў і заблытаная сістэма падаткаабкладання. Яна павінна быць спрошчана, колькасць падаткаў павінна быць істотна зменшана.

**— Аднак парламент зусім нядаўна ўжо разглядаў падатковае заканадаўства...**

— На кожны год прымаюцца падатковыя змены. Мы пачыналі сваю работу ў студзені, таму на гэты год канкрэтных зменаў і прапаноў унесці мы не маглі, ды і не мелі права, як я мяркую. Было б неасцярожнасцю для Вярхоўнага Савета пускацца ў карэнную ломку прымянення падатковага заканадаўства... Акрамя таго, мы хочам перагледзець і закон аб інвестыцыях. Адзін з асноўных законаў таксама — аб прыватнай уласнасці на зямлю, а таксама законы аб прамысловых прадпрыемствах, страхавой медыцыне... Я падкрэсліў бы адну акалічнасць, якая з'яўляецца арыенцірам у нашай працы — тое, што над гэтымі законапраектамі павінна працаваць дружная каманда з прадстаўнікоў заканадаўчай і выканаўчай уладаў, а таксама такая ж дружная каманда павінна падштурхнуць гэтыя законы ў жыцці пасля іх прыняцця.

**— Як я зразумеў, сутнасць гэтых законапраектаў — у іх рынкавай накіраванасці?**

— Так, безумоўна.

**— А як вы ацэньваеце апошнія нарматыўныя акты выканаўчай улады па пытаннях банкаўскай сферы, перарэгістрацыі прадпрыемстваў і г.д.?**

— Я не назваў бы іх антырыначнымі ці такімі, што вядуць да ўпарадкавання... Для мяне яны незразумелыя, яны не паддаюцца нават нейкай логіцы. Як можна прымаць сёння рашэнне аб абмене валюты, калі ў банку акрамя курса выплачваюцца нейкія прэміяльныя... Мяне проста здзіўляюць распрацоўшчыкі такіх актаў: аб чым яны думаюць, калі прапануюць такія механізмы?.. Дарэчы, мы будзем разглядаць Банкаўскі кодэкс, і свае прапановы ўжо ўнесла і Т. Віннікава. Гэта даволі аб'ёмны дакумент, магчыма, мы будзем прымаць яго часткамі... Але не трэба думаць, што нашы банкі здольныя сёння вырашыць пытанні фінансавання эканомікі. Ацэнкі паказваюць, што яны могуць падтрымаць не болей як 15 працэнтаў нашага народнагаспадарчага комплексу.

**— Патрэбны замежныя інвестыцыі?**

— Так. Я хацеў бы прывесці прыклад з Ніжняга Ноўгарада, адкуль я нядаўна вярнуўся. За мінулы год у гэтую вобласць Расіі інвесціравана 240 мільёнаў долараў. А ў Беларусь — толькі 2... Хацця трэба разумець, што знешнія інвестыцыі не з'яўляюцца панацэяй, не трэба чакаць, што нехта прыйдзе і накорміць наш народ. Аснова будзе ў сваёй працы, у сваёй унутранай эканамічнай палітыцы.

Асабліва неабходна нам падумаць аб сельскай гаспадарцы, для Беларусі, лічу, гэта прыярытэт № 1. Тут патрэбен цэлы комплекс мераў. На жаль, да гэтага часу ў Беларусі няма нават эканамічнай праграмы ў сферы сельскай гаспадаркі...

**— Што яшчэ карыснага даведаліся на семінары ў Ніжнім Ноўгарадзе?**

— Для мяне гэта не было Амерыкай, зразумела, я сам, калі працаваў мэрам, многія такія метады рыначных адносінаў выкарыстоўваў. Я назваў бы хіба толькі лічбу: 80 працэнтаў прамысловага і сельскагаспадарчага патэнцыялу Ніжагародскай вобласці складае недзяржаўны сектар, у тым ліку ГАЗ...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі ў сваім нядаўнім выступленні асноўны ўпор рабіў на праблемы эканомікі. Ці сапраўды стан нашай эканомікі настолькі крызісны?**

— Лічбы гавораць, што мы недаатрымліваем у бюджэт да 40 працэнтаў... Але справа, можа, і не столькі ў гэтым. Перш за ўсё мы не маем эканамічнага курсу, мы яшчэ не вызначыліся з ім. І я глыбока перакананы, што розныя партыі, рухі пакінулі б сёння на другім плане ўсё сваё змаганне, дыскусіі, калі б гэты курс быў хоць як-небудзь абазначаны. Яго сапраўды складана вымалёўваць. Хацця відавочна, што ранейшы наш шлях, сацыялістычны, аказаўся тупіковым. Дастаткова параўнаць хацця б ГДР з ФРГ, Паўночную і Паўднёвую Карэі, Тайвань і КНР. Таму трэба ўсім (і камуністам, і дэмакратам, і лібералам) спакойна сесці і разабрацца, што прымальнае для нашай рэспублікі, што мы можам ужо сёння рухаць, выкарыстоўваючы агульную згоду і разуменне. А такога вельмі шмат: прыватызацыя муніцыпальнай уласнасці, бытавой сферы, гандлю.

Гэтай працы ёсць як мінімум на 2 гады. Праблемы буйной дзяржаўнай вытворчасці таксама можна раскладваць, што называецца, па паліцах і крок за крокам іх вырашаць. І камуністы, і дэмакраты, я думаю, разумеюць, што сённяшні навукова-тэхнічны ўзровень гэтых буйных прадпрыемстваў надзвычай нізкі, і тут трэба разам займацца гэтай праблематыкай. Ёсць ключавыя пазіцыі ў эканоміцы, якія павінны застацца за дзяржавай, і яны падыходзяць як камуністам, так і дэмакратам. І тыя, і другія разумеюць, што асноўныя заводы, якія цяпер даюць прыбытак у бюджэт, сёння павінны застацца пад эгідай дзяржавы...

Ёсць і палітычныя пытанні, якія сёння маглі б быць прыведзены да адной роўніцы рознымі палітычнымі сіламі: тыя ж Саветы — нельга іх разбураць, не прапаноўваючы новага механізма. Такімі вось крокамі, адзін за адным, мы маглі б выключыць вельмі многа супярэчнасцей, якія перашкаджаюць нам сёння рухацца.

**— Як вы ацэньваеце апошнія рашэнні ў Еўрапарламенце адносна адтэрміноўкі ратыфікацыі дагавора з Беларуссю?**

— Гэтае рашэнне было практычна ўвасоблена ў жыццё раней, а цяпер было як бы афіцыйнае аб'яўленне адносінаў ЕС да Беларусі. Наша палітыка ўжо даўно прывяла да такой сітуацыі... Мне, як чалавеку, здаецца проста дзікай такая сітуацыя, калі хлопцы з дубінкамі і шчытамі пачынаюць насіцца па горадзе, пачынаюць біць студэнтаў і іншых...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, вы былі ў эпіцэнтры многіх сёлетніх мітынговых падзей і, відаць, бачылі, як у грамадстве ідзе расслаенне і выяўляюцца больш жорсткія настроі. Ці бачыце вы якое выйсце з гэтага, каб зняць супярэчнасці, якія ўзнікаюць?**

— Выйсце адзінае і простае. Трэба садзіцца за «круглы стол», аб якім гаворыцца ўжо два гады, і знаходзіць тыя балючыя праблемы, якія трэба вырашыць... Я, аднак, разумею, што ёсць і іншыя сілы, якія дзейнічаюць па прынцыпу ўсё большай жорсткасці для таго, каб адцягнуць увагу ад эканамічных правалаў. Але хай ніхто не спадзяецца, што калі мы давядзём сітуацыю да процістаяння, да крыві, то хтосьці здолее вылавіць у брудной вадзе сабе рыбку. Не. Такія палітыкі нікому не патрэбны, і ніводзін з іх не будзе мець ніякай падтрымкі. Таму калі хтосьці сёння думае аб вялікай палітыцы, ён мусіць прыйсці за «круглы стол» не так, як раней прыходзілі ў парламент — з палкамі і процівагазамі, не як выходзяць на плошчу — са шчытамі і дубінкамі, а прыйсці з тым, што ёсць у галаве, і з гарачым жаданнем выправіць гэтую сітуацыю, зняць гэтую жорсткасць.

**— Ці можа Вярхоўны Савет стаць цэнтрам, адкуль зыходзіла б запрашэнне на такі «круглы стол»?**

— Я думаю, што ён стане такім кансалідуючым цэнтрам.

**— Тым не менш, у адносінах да Вярхоўнага Савета гучыць часам жорсткая крытыка. Нават ваш калега па фракцыі Анатоль Лябедзька прапанаваў парламенту самараспусціцца. Вы, дарэчы, падтрымалі яго?**

— Не, я за гэта не галасаваў. Я ўжо праходзіў у жыцці такі этап, калі хацеў сысці... Сыход не вырашае праблем. Так дзейнічаць мы не маем права...

**— А якая абстаноўка ў Вярхоўным Савеце і вакол яго пасля апошняга выступлення С. Шарэцкага?**

— Я не думаю, што яна можа рэзка памяняцца... У рэшце рэшт, Сямён Георгіевіч сказаў тое, што думала большасць, што выклікае трывогу, што патрабуе разгляду і прыняцця рашэння. Далей хавацца па-страусінаму немагчыма. Я разглядаю гэтае выступленне як заклік сесіі, падумаць над будучыняй, узважыць усё, адкінуўшы амбіцыі.

**— Такім чынам, падагульняючы гэтую тэму, скажыце, ці бачныя для вас шляхі да грамадскай кансалідацыі, аб якой мы гаварылі?**

— Так, хацелася б іх бачыць. І на першы крок у гэтай кансалідацыі павінен падштурхнуць стан нашай эканомікі, ён павінен прымусіць задумацца некаторыя гарачыя галовы. Такая магчымасць ёсць, шляхі да яе ёсць. Калі рабіць паступовыя крокі да эканамічнай стабілізацыі, то, я думаю, гэта пасадзейнічае і палітычнай стабілізацыі ў нашым грамадстве.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

Ці Вы прыслалі ахвяру на "Беларускі Дайджэст"?

ЗВЯЗДА

**Палітолаг Уладзімір БАБКОЎ:**

# «ДАСЯГНЕННЕ ЗГОДЫ Ў СЁННЯШНІМ БЕЛАРУСКІМ ГРАМАДСТВЕ — НЕ МІФ, А РЭАЛЬНАСЦЬ»



**Аглядальнік «Звязды» гутарыць з членам-карэспандэнтам Акадэміі навук РБ, прэзідэнтам Беларускай асацыяцыі палітычных навук прафесарам Уладзімірам БАБКОВЫМ**

**— Сёння вы выступаеце ў крыху нязвычным амплуа аднаго з ідэолагаў грамадскай згоды на Беларусі. Гэта выклікае ў мяне пэўны недавер. Бо ведаю вас як чалавека, які дагэтуль вызначаўся прынцыповасцю і не вельмі ахвотна ішоў на кампрамісы.**

— Прыйшоў час кампрамісаў.

**— Тады я хацеў бы ўдакладніць: калі ўжо так моцна загучалі ноткі згоды, патрабаванне згоды, то ці не азначае гэта толькі адно — у грамадстве наспеў канфлікт?**

— Наша грамадства сёння не проста канфліктнае, а вастраканфліктнае. Але я хачу вас, а праз вас — чытачоў супакоіць. Зусім не абавязкова, каб у нармальна функцыянуючым грамадстве панавалі цішыня ды супакой. Так бывае не часта. Іншая справа, што ў любым нармальным, здаровым грамадстве існуе сістэма самарэгулявання.

**— Жыццёвая практыка вымушае нас баяцца канфліктаў. Іх стараюцца пазбегнуць і ўлады, і простыя грамадзяне.**

— Але гістарычны вопыт сведчыць, што дэстабілізацыя ўлады і дэзінтэграцыя грамадства адбываюцца не таму, што ўзнікаюць канфлікты, а таму, што ўлада не ўмее або не жадае ўрэгуляваць палітычныя супярэчнасці. Вось і ўсё.

**— Беларус прывык усё мацаць рукамі. Паспрабуйце мяне пераканаць.**

— Успомніце, якую неверагодную па сваёй складанасці задачу вырашыла ў 1977 годзе Іспанія. Ззаду засталіся грамадзянская вайна, шматгадовая дыктатура Франка, краіну ўзрушвалі вострыя палітычныя канфлікты. Ніхто не ведаў, чаго чакаць наперадзе. Выратаваннем стаў спецыяльны дагавор аб нацыянальнай згодзе.

У постсавецкай Польшчы была падобная сітуацыя. Суседка наша, Расія, на нашых жа вачах прайшла праз сілавыя метады барацьбы: расстрэл парламента, роспуск Канстытуцыйнага суда, дыскрэдытацыю і ўхіленне палітычных праціўнікаў. Падпісанне дагавора аб грамадскай згодзе згладзіла вастрыню палітычнага жыцця.

**— І ўсё ж у Беларусі іншая сітуацыя. Так што я не ведаю, наколькі карэктныя такія паралелі.**

— Галоўным чынам, іншая яна вось у чым. Ва ўсіх трох прыведзеных выпадках або адсутнічала Канстытуцыя, або яна ўстарэла. Не было прававога механізма вырашэння грамадскіх праблем. І то дамовіліся. А ў нас дзейнічае новая Канстытуцыя 1994 года, у адпаведнасці з якой выбраны Прэзідэнт, парламент, Канстытуцыйны суд. Фарміруецца шматпартыйнасць. Так што наш шлях да згоды намнога карацейшы.

Галоўнае, каб ва ўдзельнікаў дыялогу было жаданне вырашаць, жаданне кампраміса. І тут усім давядзецца пераступіць праз уласныя амбіцыі.

**— Асабіста я чакаў бы тут добрага прыкладу ад Прэзідэнта. Гэтага кроку мы ўсе маем права чакаць ад яго хоць бы таму, што на ім ляжыць ці не самая большая персанальная адказнасць за лёс краіны, народа.**

— У Прэзідэнта асобая роля ў дасягненні згоды. А таму сваёй дзейнасцю ён прызваны выказваць перш за ўсё агульнадзяржаўны, агульнанацыянальны, агульнанародны інтарэс. Як і прысягаў на Канстытуцыі.

**— У парушэнні якой яго зараз і папракаюць палітычныя... Хацеў сказаць «палітычныя праціўнікі». Але сам сябе папраўлю. Больш правільна будзе — апаненты.**

— Апаненты. Бо мэты, у тым ліку і палітычныя, часцей за ўсё адны і тыя ж. Шляхі дасягнення прапаведуюцца розныя. Калі ж па сутнасці... У нашым выпадку можна спрачацца з Канстытуцыйным судом і Вярхоўным Саветам толькі наконт таго, больш ці менш законаў парушана кіраўніком выканаўчай улады. Канстытуцыйны суд лічыць, што такіх парушэнняў шмат.

У той жа час у пэўнай ступені *Прэзідэнта зразумець можна:* народу шмат чаго паабяцана... хочацца хутчэй вырвацца з крызісу, зрушыць з месца даволі цяжкі воз эканамічных, у першую чаргу, праблем. І ў справу ідуць знаёмыя адміністрацыйна-камандныя метады.

Тут важна своечасова спыніцца, бо адміністрацыйна-камандныя метады трывала дыскрэдытавалі сябе. Яшчэ важней зразумець, што парушэнне законаў «зверху» больш непажаданае, чым «знізу».

**— Ну вось, мы з вамі таксама крытыкуем Прэзідэнта. Не баіцеся, што вас запішуць у апазіцыю?**

— Добразычлівая крытыка яшчэ нікому не перашкаджала. Паглядзіце, колькі вострай крытыкі гучыць у, Амерыцы — у адрас Клінтана, у Расіі — у адрас Ельцына (нават у час выбараў, адны «Лялькі» чаго вартыя), у Германіі і Японіі, Польшчы і Англіі — у адрас іх лідэраў. Дажывём да таго шчаслівага часу, калі выйдзем з палітычнага і эканамічнага крызісу — крытыкі будзе менш. Але грамадская актыўнасць людзей так ці інакш усё роўна павінна праяўляцца. І гэта адна з прымет любога дэмакратычнага грамадства.

Сусветны вопыт сведчыць, што палітычны лідэр дзяржавы легітымны ў той ступені, у якой яму ўдаецца кансалідаваць грамадства, забяспечыць у ім згоду. Наш Прэзідэнт умее пераконваць, свабодна адчувае сябе ў любой аўдыторыі. Дзякуючы гэтым якасцям некалі і перамог сваіх больш знакамітых канкурэнтаў. На думку многіх аналітыкаў, яму трэба запасціся яшчэ і цярпеннем у пошуках кампрамісаў, уменнем збіраць *вакол сябе згодных і нават нязгодных,* але карысных грамадству. Быць больш дэмакратычным ва ўсіх сваіх дзеяннях і паклапаціцца аб дэмакратызме свайго кабінета.

**— Як радавы выбаршчык асабіста я хацеў бы, каб такія вось якасці, а таксама ўзаемную лаяльнасць адзін да аднаго якраз і праявілі Прэзідэнт, Вярхоўны Савет, Канстытуцыйны суд.**

— Што ж, менавіта ў іх узаемаадносінах перш за ўсё і бачна адкрытая і небяспечная для нашай дзяржавы канфрантацыя. Можна зразумець усе складанасці працэсу практычнага раздзялення ўлады, нераспрацаванасць механізма іх узаемадзеяння. Але ўсе ўдзельнікі канфлікту павінны ведаць, што гэта адна з найбольш небяспечных для грамадства формаў процістаяння. Што любой краіне гэта не дабаўляе міжнароднага аўтарытэту і можа прывесці да палітычнай ізаляцыі. І што ім варта хутчэй шукаць паразуменне. Тым больш, што такі заклік ужо прагучаў з вуснаў Сямёна Шарэцкага.

**— Ведаеце, што мяне трывожыць? «Люлька міру» запалена і працягнута. Рана ці позна яна, спадзяюся, будзе прынята. І тут вельмі многае будзе ўжо залежаць ад таго палітычнага фону, на якім пойдзе перагаворны працэс. Многае пачне залежаць ад палітычных партый. Ці вы лічыце, што не?**

— У нас раней не было ні інстытута прэзідэнства, ні шматпартыйнасці. Так што і ўладныя структуры, і партыі засвойваюць першыя сур'ёзныя ўрокі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння.

Разам з тым даволі дакладна вызначылася тэндэнцыя да згуртавання палітычных партый, нават самых разнародных, вакол пазіцыі Вярхоўнага Савета.

Паўтара апошніх года выканаўчая ўлада плануе сустрэчу Прэзідэнта з лідэрамі палітычных партый. Час ад часу звесткі аб такіх планах прасочваюцца ў прэсу. Але сустрэча пакуль не адбылася.

**— У тым ці іншым сэнсе мы можам гаварыць аб наяўнасці нейкай «трэцяй сілы»?**

— Даволі спрэчнае паняцце. Кожны трактуе па-свойму. Я ўключыў бы сюды так званыя непалітычныя арганізацыі: прафсаюзы, прамысловыя, аграрныя, навукова-культурныя саюзы, рэлігійныя арганізацыі. Успомніце мінулагоднія забастоўкі работнікаў *метро, тралейбуснікаў,* а таксама мітынг па ініцыятыве прафсаюзаў, што планаваўся на люты гэтага года. Ва ўмовах пагаршэння ўмоў жыцця людзей такія забастоўкі і мітынгі могуць набыць ярка выяўлены палітычны характар, накіраванасць супраць зусім канкрэтных палітычных лідэраў. Праўда, непалітычныя арганізацыі ў апошнія гады актыўна на палітычныя *падзеі не* ўплывалі. А ў лютаўскім канфлікце ўменне Прэзідэнта ўрэгуляваць яго паставіла сітуацыю пад кантроль уладаў. Так што тут многае залежыць ад канкрэтнай сітуацыі і падыходаў да яе вырашэння.

**— Актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці да апошняга часу не прымала і моладзь...**

— Так, яна нават дэманстравала палітычную пасіўнасць. Але ж мы ведаем з айчыннай і сусветнай практыкі, якой актыўнай, мабільнай і нават радыкальна-выбуховай можа быць моладзь. Я правёў уласнае апытанне студэнтаў. Яно паказала, што пераважная большасць іх (прыкладна 75—80 працэнтаў) у цяперашніх рознагалоссях падтрымлівае пазіцыю Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда. Далёка не ўсе ўхваляюць палітычную інтэграцыю з Расіяй. Трывожыць, што студэнты і наогул моладзь, нават школьная, прымкнулі менавіта да мітынгаў і дэманстрацый, арганізаваных БНФ.

Гэта не азначае, што яны абавязкова раздзяляюць погляды, пазіцыю, ідэалогію БНФ. Гэта азначае іншае — у моладзі няма ўласных ідэолагаў, няма ўласнай арганізацыі, а жыццёвыя прынцыпы пачынаюць вызначацца даволі дакладна. Яна шукае сваё месца ў палітычным жыцці. І зараз вельмі і вельмі важна не адвярнуцца ад яе, не ўпусціць яе. Гэта будзе вялікай памылкай. Зусім правільна, што Прэзідэнт падпісаў Указ аб першачарговых мерах па рэалізацыі маладзёжнай палітыкі, што сустрэўся з лідэрамі маладзёжных арганізацый, што разам паспрабавалі вызначыць накірункі ўзаемадзеяння. З маладымі трэба сустракацца як мага часцей. Нават больш, чым з дарослымі палітыкамі і эканамістамі.

**— У справе дасягнення грамадскай згоды, як і разбурэння яе, вялікая роля належыць апазіцыі.**

— Згодзен. Цэльнасць дэмакратычнага грамадства заўсёды будуецца на *ўзаемаадносінах уладаў і* апазіцыі. Улады ў працэсе выпрацоўкі рашэнняў убіраюць у сябе і імпульсы, якія ідуць ад апанентаў. Пры такім падыходзе палітычныя рашэнні зарыентаваны на дасягненне стваральнага, а не разбуральнага эфекта. І ў такой сітуацыі ніхто не можа прысвоіць сабе манаполію на ісціну.

Аналіз паказвае, што зараз у Беларусі склалася даволі рэдкая ў сусветнай практыцы сітуацыя з апазіцыяй. Непрымірымай апазіцыі на ўзроўні галін улады ў нас сёння няма. Затое дзеянні выканаўчай улады па расшырэнню сваіх паўнамоцтваў прывялі да таго, што лагер канструктыўнай апазіцыі набыў форму шырокага народнага фронту, у які можна ўключыць, з пэўнай доляй умоўнасці, заканадаўчую і судовую ўладу, прафсаюзы, значную колькасць інтэлігенцыі, прадпрымальнікаў, студэнцтва.

Аднак падкрэслім, што гэтая шырокая апазіцыя не дэструктыўная, а надзвычай канструктыўная. Абараняючы Канстытуцыю, яна сама імкнецца да згоды. Адмаўляючы дыктат і націск, прапануе шлях дыялогу, узаемных уступак і крокаў насустрач.

**— Як вы ацэньваеце сітуацыю з так званай радыкальнай апазіцыяй?**

— Тут усё куды больш сур'ёзна. На мой погляд, сённяшнія ўлады паўтараюць нядаўнія памылкі кампартыі Беларусі — поўнае адмаўленне Беларускага народнага фронту і адпаведныя адносіны да яго. Што вяло да росту папулярнасці ў грамадстве і арганізацыйнага ўмацавання БНФ.

**— Такім чынам, ваш аналіз расстаноўкі палітычных сіл, іх пазіцый паказвае...**

— Што сённяшняя палітычная сітуацыя на Беларусі нестабільная і нават выбухованебяспечная. У апошні час праблема дасягнення згоды ўскладнілася з'яўленнем новай крыніцы палітычнага канфлікту. Ён узнік на аснове працэсаў суверэнізацыі і інтэграцыі. Маецца на ўвазе перш за ўсё Дагавор паміж Беларуссю і Расіяй. Прырода канфлікту — у разыходжаннях людзей у базавых каштоўнасцях, палітычных ідэалах, прыярытэтах.

**— Вось-вось. І як шукаць шлях да грамадскай згоды, калі адны за суверэнітэт, а другія за інтэграцыю?**

— Вельмі значная частка грамадства разумее, што патрэбна і тое, і другое. Тут шлях да згоды — праз першачарговае ўмацаванне суверэнітэту маладой беларускай дзяржавы і ў той жа час — пашырэнне і ўмацаванне яе інтэграцыйных сувязей. Такі збалансаваны падыход у палітыцы здольны не раз'ядноўваць прыхільнікаў суверэнітэту і інтэграцыі, а згуртоўваць іх.

Гэты шлях ускладняецца нашым нежаданнем і няўменнем шукаць згоду метадамі кампрамісу, дыялогу. Мы прывыклі ўсё вырашаць сілавымі метадамі: шляхам рэвалюцый, мітынгаў, дыктатуры, з дапамогай спецслужбаў, дубінак і г.д.

Такія метады маглі мець месца (а маглі і не мець) у 17-м годзе, калі многае тлумачылася антаганізмам класаў. Зараз усё па-іншаму. І выканаўчая ўлада, ад імя якой выступае Прэзідэнт, і заканадаўчая, прадстаўленая парламентам, і судовая ўлада, і палітычныя партыі, і нават прафсаюзы дзейнічаюць, як яны заяўляюць, у інтарэсах народа, а не, скажам, толькі пралетарыяту.

У нас НЯМА АБ'ЕКТЫЎНЫХ ПРАБЛЕМ для крызіснага процістаяння розных палітычных сіл.

Добра, калі галоўную скрыпку ва ўрэгуляванні канфлікту, што намеціцца, адыграе выканаўчая ўлада. Накіраваўшы сваю дзейнасць у рамкі законаў, яна вельмі хутка адчуе істотную падтрымку з боку ўсіх суб'ектаў палітыкі.

Тут ёсць пажаданні і да іншых бакоў. Дэпутатам варта хутчэй спасцігаць прамудрасці парламентарызму. Апазіцыі — змяніць метады работы адбойнага малатка на метады пастаяннага дыялогу. Моладзі — павучыцца цярпімасці. А ўсім нам — палітычнай культуры. Вярнуцца да той самай талерантнасці, якой заўсёды вызначаўся беларус.

**Запісаў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

«Звязда»

# У СПРАВЕ АБ КУРАПАТАХ ПАСТАЎЛЕНА КРОПКА

**Нават цяжка сказаць, колькі ў беларускіх сродках масавай інфармацыі на працягу васьмі гадоў было надрукавана матэрыялаў на тэму пахаванняў у Курапатах. Але да апошняга часу не было адзінай думкі на тое, хто стаў ахвярамі і чые рукі запэцканы ў крыві. Адзін бок запэўніваў, што масавыя расстрэлы ў лясах пад Мінскам — справа рук НКУС, другі абвінавачваў у злачынстве нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Днямі ў Вярхоўным Савеце Беларусі атрымалі інфармацыю аб выніках расследавання крымінальнай справы аб масавых расстрэлах грамадзян у лясным масіве Курапаты, якую падпісаў першы намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Уладзімір Кандрацьеў. Па прычыне таго, што гэтая інфармацыя з'яўляецца досыць важнай, мы друкуем яе без скарачэнняў.**

«У красавіку-маі 1988 г. пры правядзенні земляных работ па пракладцы газаправода, а таксама пры правядзенні піянерскай гульні «Зарніца» ў лясным масіве, які ў далейшым называецца «Курапаты», былі знойдзены астанкі вялікай колькасці людзей.

14 чэрвеня 1988 г. Пракуратурай Рэспублікі Беларусь была ўзбуджана крымінальная справа, у працэсе расследавання якой устаноўлена, што ва ўказаным месцы ў 1937—1941 гг. супрацоўнікамі НКУС БССР расстрэльваліся рэпрэсіраваныя жыхары рэспублікі, так званыя «перабежчыкі», а таксама грамадзяне заходніх абласцей Беларусі.

Пры аглядзе ляснога масіву ўстаноўлена, што на тэрыторыі каля 30 гектараў размешчана 510 мяркуемых пахаванняў, з якіх у працэсе эксгумацыі праверана 8, і ў шасці з іх выяўлены шкілетаваныя астанкі людзей, адзенне і іншыя асабістыя рэчы загінуўшых. Па заключэнню судова-медыцынскіх, крыміналістычных і іншых экспертыз у 6 пахаваннях выяўлены астанкі не менш як 356 чалавек, з якіх не менш як 21 жанчыны. Указаныя акалічнасці далі магчымасць зрабіць выснову аб тым, што ўсяго ва ўрочышчы Курапаты пахавана не менш як 30 тысяч чалавек. У пахаваннях знойдзена некалькі дзесяткаў гільз і патронаў да рэвальвера сістэмы «наган» і пісталета «ТТ». Гэтымі відамі зброі былі ўзброены работнікі камендатуры НКУС, якія па роду сваіх абавязкаў прыводзілі ў выкананне прыгаворы і пазасудовых рашэнні ў адносінах да асоб, прыгавораных да вышэйшай меры пакарання — смерці.

У працэсе следства ўстаноўлены 55 жыхароў бліжэйшых вёсак Цна, Падбалоцце, Драздова, якія былі відавочцамі расстрэлаў грамадзян работнікамі НКУС БССР у 1937—1941 гг. Акрамя таго, устаноўлены 45 жыхароў указаных вёсак, якія хоць і не былі відавочцамі расстрэлаў, аднак ведалі аб іх са слоў сваіх бацькоў, сваякоў, суседзяў.

Паводле паведамлення КДБ Рэспублікі Беларусь, указанае ведамства не мае дакументальных даных аб месцах прывядзення ў выкананне прыгавораў і рашэнняў пазасудовых органаў, аб колькасці расстраляных грамадзян, а таксама аб асобах, якія выконвалі прыгаворы і рашэнні аб вышэйшай меры пакарання.

Для ўстанаўлення і прыцягнення да адказнасці канкрэтных асоб, вінаватых у рэпрэсіях, па прапанове ўрадавай камісіі Пракуратура Рэспублікі Беларусь аднаўляла расследаванне па дадзенай справе. Следству ўдалося ўстанавіць некалькі чалавек, якія ў 1937—1941 гг. працавалі ў НКУС, спецкалегіі Вярхоўнага суда БССР і іншых ведамствах, якія мелі дачыненне да рэпрэсій. У працэсе допытаў указаныя асобы заявілі, што яны не мелі непасрэднай адносінаў да расследавання спраў і выкананню прыгавораў у адносінах да так званых «ворагаў народа». Некаторыя з іх пацвердзілі, што прыгавораных да расстрэлу грамадзян вывозілі ў лес па Лагойскаму тракту і прыкладна ў 4 км ад г. Мінска прыводзілі прыгавор у выкананне работнікі камендатуры НКУС. Указаны напрамак і адлегласць ад горада супадае з урочышчам Курапаты.

Вывучэннем архіўных крымінальных спраў на рэабілітаваных у 1950—1960 гг. грамадзян выяўлена больш за 40 былых работнікаў НКУС БССР, якія прымалі ўдзел у 1937—1941 гг. у расследаванні дзяржаўных злачынстваў. Частка з іх у 1938—1941 гг. была прыцягнута да крымінальнай адказнасці за парушэнні законнасці і асуджана. Асобы, якія былі ў тыя гады народнымі камісарамі НКУС БССР, за парушэнні сацыялістычнай законнасці і іншыя дзяржаўныя злачынствы таксама былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, у далейшым расстраляны або пакончылі з сабой. (Малчанаў Г. А., Берман Б.Д., Наседкін А. А., Цанава Л. Ф.).

У сувязі з тым, што вінаватыя ў рэпрэсіях кіраўнікі НКУС і іншыя службовыя асобы прыгавораны да смяротнага пакарання або памерлі, крымінальная справа ў адносінах да іх спынена.

У працэсе расследавання старанна правяраліся прычыны, выкладзеныя ў зварозе Мінскага гарадскога клуба гістарычных ведаў, аб тым, што ў Курапатах ляжаць ахвяры фашысцкага генацыду, у тым ліку і яўрэі, дэпартаваныя з краін Заходняй Еўропы.

Пасля вызвалення г. Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. у БССР працавала Надзвычайная дзяржаўная камісія па ўстанаўленню і расследаванню злачынстваў, учыненых фашыстамі і іх памагатымі ў час акупацыі. У акце камісіі ўказаны канкрэтныя месцы, дзе фашысты праводзілі масавыя знішчэнні мірных жыхароў г. Мінска і бліжэйшых вёсак: в. Глінішча, у 5 км ад г. Мінска; хутар Петрашкевічы; яўрэйскія могілкі ў г. Мінску; Вялікі Трасцянец; урочышча Дразды; Малы Трасцянец; лес Благаўшчына. У акце камісіі ад 25.07.44 указана, што ў в. М. Трасцянец знішчалася яўрэйскае насельніцтва з гарадоў Чэхаславакіі, Аўстрыі, Германіі і Польшчы. У матэрыялах указанай камісіі адсутнічаюць якія-небудзь даныя аб тым, што фашысты і іх памагатыя ажыццяўлялі масавыя расстрэлы грамадзян у раёне вёсак Цна-Едкава і Зялёны Луг (Курапаты).

На наша запатрабаванне пасольства Ізраіля паведаміла, што ў архіўных матэрыялах Мемарыяльнага інстытута катастрофы і геразіму еўрапейскага яўрэйства ў Іерусаліме няма ніякіх даных, якія б сведчылі аб расстрэлах немцамі яўрэяў у Курапатах у гады другой сусветнай вайны.

У працэсе следства ў пракуратуры г. Гамбурга (ФРГ) была вывучана крымінальная справа па абвінавачванню ваенных злачынцаў штандартэнфюрэра СС Пауля Блобеля і Макса Кранера, якія ў канцы 1943 г. і пачатку 1944 г. са спецыяльнымі камандамі займаліся знішчэннем слядоў масавых пакаранняў грамадзян шляхам раскопвання пахаванняў і спальвання трупаў. Ніякага ўпамінання мясцовасці, якая цяпер называецца Курапатамі, у справе няма.

Прыведзеныя вышэй, а таксама іншыя наяўныя ў справе доказы сведчаць аб беспадстаўнасці меркаванняў так званай «грамадскай камісіі».

Аналіз наяўных у крымінальнай справе даных дае магчымасць зрабіць выснову аб тым, што ў лясным масіве Курапаты ў 1937—1941 гг. органамі НКУС БССР праводзіліся масавыя расстрэлы грамадзян. Вызначыць іх асобы і канкрэтныя падставы пакарання ў працэсе следства не было магчымасці з-за адсутнасці неабходных архіўных даных у КДБ Рэспублікі Беларусь.

1 снежня 1995 г. дадзеная крымінальная справа спынена. Падстаў для аднаўлення следства няма».

***Учора мы звярнуліся да першага намесніка Генеральнага пракурора Уладзіміра Кандрацьева і задалі яму некалькі пытанняў у якасці каментарыя да прыведзенай інфармацыі.***

**— Ці можна сказаць, што ў справе аб Курапатах пастаўлена кропка?**

— Пракуратура спрабавала ўсебакова і аб'ектыўна падысці да расследавання гэтай справы. Расследаванне неадназоўна ўзнаўлялася і перадавалася розным следчым. Мы нават выехалі ў Германію, знайшлі матэрыялы і факты.

**— З інфармацыі вынікае, што расстрэлы ў Курапатах знаходзяцца на сумленні НКУС. Наколькі мне вядома, вы належалі да тых, хто прытрымліваўся іншага погляду?..**

— Я гэтага ніколі не гаварыў. Падобная версія, па-мойму, была выказана адной нейкай латвійскай газетай, але на самай справе я не казаў, што пахаванні ў Курапатах —часоў Вялікай Айчыннай вайны.

**— Скажыце, калі ласка, у расследаванні гэтай справы якую ролю адыгрывала палітыка? Вядома, што тэма Курапат вельмі актыўна была ўзнята Народным фронтам, у той жа час іншыя палітычныя сілы спрабавалі зменшыць трагічнасць таго, што адбылося ў лесе пад Мінскам.**

— Мы былі па-за палітыкай. Наша задача заключалася ў тым, каб высветліць прыналежнасць гэтых пахаванняў. Былі апытаны дзесяткі сведак, праведзена экспертыза знойдзеных рэчаў і многае іншае. (Звесткі захоўваюцца ў 20 тамах справы.) Усё сведчыць аб тым, што ў Курапатах расстрэлы былі праведзены яшчэ да вайны, што гэта справа НКУС. Праўда, непадалёку ў часы вайны вялі знішчэнне людзей і немцы, але гэта да згаданай справы дачынення не мае.

"ЗВЯЗДА" **Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## BELARUS AUTHORITIES CONFIRM STALIN NKVD BLAME FOR ATROCITIES SITE

General Procurator Office, chief investigative body in Belarus, concluded a thorough and long-standing investigation into mass killings in Kurapaty forest in Minsk suburbs. The investigation was undertaken against a background of a serious political controversy between those who claimed that it was Stalin security police NKVD responsible for the mass killings and those who insisted that it were Nazi extermination squads to be blamed.

The Procurator's office concluded that "...analysis of the data reflected in the criminal case gives the opportunity to make a conclusion that mass killings of citizens in 1937-1941 in Kurapaty forest were carried out by NKVD of Byelorussian SSR". First Deputy General Procurator confirmed in an interview to Belarusian press that "...all proves that killings in Kurapaty took place before the war and it was a NKVD affair."

According to the Procurator office findings at least 30,000 people were buried in mass graves at the killing site.

President Clinton, while on an official visit to Belarus in 1994, visited Kurapaty to pay respect to the memory of the victims.

*Embassy of Belarus*

# Эканоміка – капрызлівая дама. Яна адгукаецца на ласку і не цярпіць, калі яе пачынаюць гвалціць

**Чаму ў нас так зацягнуўся крызіс?**

**Што наогул адбываецца ў эканоміцы?**

**Ці ёсць спадзяванне хоць на нейкую палёгку ў бліжэйшыя два-тры гады?**

**Аб гэтым гутараць Іван МАКАЛОВІЧ і доктар эканамічных навук, прафесар, намеснік Міністра эканомікі Беларусі Андрэй ТУР.**

**— Андрэй Мікалаевіч, скажыце шчыра, якая сітуацыя ў нашай эканоміцы? Якой яна бачыцца з вашага высокага кабінета?**

— Даволі складанай. Па многіх параметрах. Спробы стабілізаваць, якія прымаліся, не даюць эфекту.

**— Як гэта выглядае ў лічбах?**

— Яны не заўсёды адлюстроўваюць рэальнае становішча. Вынікі першага квартала на ўзроўні леташняга года. А па некаторых пазіцыях нават вышэйшыя. Але ж абвастрылася сітуацыя з рэалізацыяй. Па прыкідках сусветнага банка ў нас таварных запасаў на 10 трыльёнаў рублёў, што вельмі многа. Падаюць аб'ёмы прыбытку.

**— Выходзіць, працуем на склад?**

— Так, прадукцыя выпускаецца, але кепска рэалізуецца.

**— Чаму?**

— Існуюць дзве асноўныя прычыны неканкурэнтаздольнасці — высокая цана альбо нізкая якасць. А ў нас узнікла яшчэ адна — нізкая плацёжная здольнасць. І цана вырабу была б не высокая, і якасць увогуле задавальняе, а купіць няма за што. У краіне нізкі ўзровень даходаў, насельніцтва не мае грошай.

**— Давайце ўсё ж такі звернемся да канкрэтыкі, да лічбаў.**

— Мінімальны спажывецкі бюджэт у красавіку складаў 1057 тысяч рублёў, а сярэдняя зарплата — 1038 тысяч. За рысай беднасці аказалася больш 36 працэнтаў насельніцтва.

**— З вышэйсказанага вынікае адказ і на пытанне: "Чаму падаюць аб'ёмы прыбытку?"**

— Канешне, калі прадукцыя не прадаецца, адкуль жа возьмуцца даходы. Але тут ёсць і больш глыбокая прычына — высокая доля затрат. Асабліва на металы, энергію. Яны складаюць 90% ад усіх. У перадавых краінах іх доля ў межах 30—40%.

**— Напэўна, адмоўна ўплываюць і высокія падаткі?**

— І яны таксама. Але і тут варта звярнуць увагу на важную акалічнасць. Ільвіная доля падаткаў, дзесьці дзве трэці, ідуць на ўтрыманне стратных прадпрыемстваў, неэфектыўных структур. Уся сацыяльная сфера, ахова здароўя на сённяшнім гаротным узроўні з-за гэтага.

**— Андрэй Мікалаевіч, якая ж перспектыва бачыцца на бліжэйшыя два гады?**

— Я мяркую, што спад вытворчасці яшчэ будзе працягвацца, а ўзровень жыцця падаць. Па нашаму прагнозу на так званыя "нулявыя паказчыкі" па вытворчасці і рэалізацыі (няма ні росту, ні спаду) мы павінны выйсці ў наступным годзе. І то пры ўмове, калі пойдзе прыватызацыя, пачнуцца структурныя змены, інвестыцыі... Стабілізацыя ў эканоміцы яшчэ не азначае, што тут жа пачнецца і палепшэнне жыцця. Яно бывае праз пэўны час, следам за стабілізацыяй і пачаткам уздыму.

**— Колькі цягнецца гакі "след"?**

— Звычайна год з паловай.

**— Словам, бліжэйшыя два-тры гады спадзявацца на палёгку не прыходзіцца?**

— У гэты перыяд мы будзем у даволі складаным становішчы.

**— Як жа нам выйсці з яго?**

— Неабходна рэфармаванне ўласнасці. Усё роўна прыйдзецца заняцца ім.

**— Але ж многія разумеюць яе па-свойму. Што маеце на ўвазе Вы?**

— Сутнасць праблемы ў вельмі простым: трэба наладзіць справу так, каб з кожнай долі ўласнасці атрымліваць найбольшую аддачу.

**— Перадаць яе ў рукі сапраўдных гаспадароў?**

— Менавіта так. Уласнасць можа быць і дзяржаўнай, галоўнае, каб яна "добра працавала". Трэба яе аддаць таму, хто зможа яе максімальна выкарыстоўваць. Неабходна таксама і моцная прававая база.

**— У нас ёсць спецыялісты, сілы, здольныя распарадзіцца як след уласнасцю?**

— Канешне, ёсць. Гэта і прыватны бізнес, які нараджаецца, і кадры дзяржаўных прадпрыемстваў. Вядома, пасля пэўнай падрыхтоўкі.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— Неабходна рыхтаваць упраўленцаў. У нас няпепскія тэхнары. Яны добрыя спецыялісты па вытворчасці. І складаюць амаль 85% сярод дырэктараў. А ў перадавых краінах 90% кіраўнікоў прадпрыемстваў — гэта эканамісты і юрысты. Словам, вырабляць прадукцыю ў нас умеюць. Трэба навучыцца яе і прадаваць. Неабходна ўмець кіраваць не столькі тэхналагічным працэсам, колькі эканамічным. У нас галоўнае — як выпусціць прадукцыю. А ў свеце — як яе рэалізаваць. Як на мінімуму закупіць сыравіну, камплектуючыя, як мага танней прывезці іх, больш выгадна прадаць гатовую прадукцыю.

**— А як вы ацэньваеце стан прававой базы?**

— Складваецца ўражанне, што Вярхоўны Савет разглядае тыя законы, праекты якіх у яго ёсць, каб не сядзець без работы. А патрэбны пакеты законаў, найперш пакет рынкавых... Вось цяпер прымаюць Закон аб банкруцтве. Але ці будзе ён працаваць? Гэта ўжо як бы нікога і не цікавіць. Вядома, што згаданы закон запрацуе толькі ў звязцы з добрымі законамі аб уласнасці, аб зямлі, аб банках, аб прадпрыемстве... А вось гэтыя рынкавымі не назавеш. А эканоміка — дама капрызлівая, вельмі капрызлівая. Яна адгукаецца на ласку і добрыя адносіны да сябе і не цярпіць, калі яе пачынаюць гвалціць.

**— Пакет нармальных рынкавых законаў можна распрацаваць і прыняць за тры-чатыры месяцы... Чаму ў нас іх не могуць прыняць за пяць гадоў? Чаму мы ўвесь час топчамся на месцы? Вунь нашы суседзі — Эстонія, Польшча, Чэхія ладна ўвайшлі да рынку. Ці то ў вышэйшых эшалонах нашай улады не ведаюць, як трэба рэфармаваць эканоміку, ці то ім не хапае палітычнай волі, каб спыніць над ёю гвалт? Як вы лічыце?**

— Я мяркую, што кіраўніцтва звязана палітычнымі абавязацельствамі. Яно ў цісках іх. А праводзіць эканамічныя рэформы і гарантаваць пры гэтым сацыяльную забяспечанасць і сацыяльную абароненасць — вельмі складана. Фактычна, гэта немагчыма. Калі б залежыла ад мяне, я прыпыніў бы на пэўны час асноўную масу сацыяльных праграм, даваў бы дапамогу толькі тым, хто без яе ніяк не абыдзецца і за кошт такога кроку падштурхнуў бы тыя сферы, якія могуць даць хуткі даход.

**— Як бачым, рэальная перспектыва даволі не суцяшальная. Што вы, як эканаміст, у такой сітуацыі параілі б нашым чытачам?**

— Сітуацыя ў цэлым захоўвае тэндэнцыю да пагаршэння. Таму кожнаму трэба шукаць сваю нішу, свой бізнес і працаваць у першую чаргу на самога сябе, на сваю сям'ю. Гэта будзе і на карысць дзяржаве. Бо грамадства багацее тады, калі багацеюць яго грамадзяне. А яны лепей жывуць пасля таго, як пачынаюць старанна працаваць. Дзяржава ж павінна забяспечыць умовы для паспяховай работы кожнага, такія, пры якіх людзі маглі б багацець.

**— Яно так. Але што зробіш, калі наша дзяржава не надта хоча ствараць гэтыя добрыя ўмовы для грамадзян, а імкнецца толькі да аднаго: як бы абмежаваць і зацісніць іх ініцыятыву.**

"Народная Воля"



IN MEMORIAM



Сьвятой Памяці

## МІКОЛА ШУСТ
**20. 10. 1920 — 18. 7. 1996**

18-га ліпеня 1996 года адыйшоў ад нас на вечны супачынак блізкі і дарагі сябра мае сям'і. Для маіх дзяцей нябожчык быў дзядзькам Колям, а для мяне і мае жонкі Людмілы — заступаў роднага брата.

Сьв. Памяці Мікола быў вялікім патрыётам і адданым грамадзкім дзеячом. Быў ён сябрам ЗБК, радным БНР і вядомым мастаком. Ягоныя вырабы з саломы высока цаніліся на розных выстаўках у Канадзе і ЗША.

Беларускае грамадзтва выказвае спачуваньні ягонай жонцы Гэлене, дачцы Барбары, зяцю Алену і двум унучкам.

Дарагі Сябра! Сьпі пад курганам герояў! Заступіся перад Усемагутным за лёс нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны.

Хай Табе будзе пухам Канадыйская зямля, а памяць пра Цябе застанецца ў нашых сэрцах на доўгія гады.

*Вечная Памяць!*

Б. Рагуля

## НА МІНСК «ЗВАЛЯЦЦА» 16 ТЭЛЕКАНАЛАЎ

З наступнага месяца жыхары сталічных мікрараёнаў «Малінаўка» і «Паўднёвы Захад» пры жаданні змогуць прымаць на свае тэлевізійныя прыёмнікі 16 каналаў. Дарэчы, іх трансляцыя на ўвесь Мінск ажыццяўляецца беларуска-амерыканскім СП «Космас-ТВ» ужо зараз, але кабельныя сеткі горада, на жаль, не дазваляюць паўсюдна далучацца людзям да гэтага пакуль невядомага «цуда цывілізацыі» — мноства разнастайных тэлевізійных праграм. Не выпадкова менавіта «Малінаўка» і «Паўднёвы Захад» абраны ў якасці доследнай зоны, дзе будуць праходзіць «выпрабаванні» — у гэтых мікраараёнах лягчэй наладзіць неабходную інфраструктуру.

Як паведаміў «Звяздзе» генеральны дырэктар «Космас-ТВ» Віктар Кірылаў, усе 16 каналаў будуць падзелены на два «пакеты». У першы ўвойдуць ужо знаёмыя нам ГРТ, канал «Расія» і БТ («традыцыйныя» расійскія каналы будуць дэманстравацца ў поўным аб'ёме), а таксама асобна некалькі невядомых пакуль беларускім гледачам расійскіх праграм і дадаткова — музычны французскі канал. Кошт на прыёму гэтага «пакета» для грамадзян павінен вызначыць гарвыканком.

У другі пакет, які самастойна будзе прапаноўваць гледачам «Космас-ТВ», увойдуць дзіцячы канал з «мульцікамі» з раніцы да позняга вечара, канал класічных замежных фільмаў, канал навін CNN, магчыма, канал «Еўраспорт» і іншыя. Некаторыя з іх будуць выходзіць на рускай мове або з перакладам, некаторыя — на замежнай. Мяркуецца, што кошт прыёму ўсіх 16 каналаў складзе 18 долараў у месяц.

Уключым тэлевізары?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Беларусы — самыя разумныя людзі?

Міжнародная арганізацыя людзей з высокім узроўнем інтэлекту (MENSA) правяла ў Менску сэрыю тэстаў з мэтай высьветліць інтэлектуалны патэнцыял жыхароў Беларусі.

Старшыня (MENSA) прафэсар Оксфардскага ўнівэрсытэту спадар Вінцэнт быў уражаны вынікамі: ажно 46% рэспандэнтаў набралі найвышэйшы бал. Раней узровень інтэлекту правяраўся больш чым у 100 краінах сьвету, але звычайна самыя высокія вынікі паказвалі толькі 15-20% апытаных. (Так падае газэта "Свабода").

Наша заўвага: Або прафэсар быў п'яны, або апытваў ён каманду Лукашэнкі ці калгасных старшыняў. Відаць, прафэсар умее добра пажартаваць...

Сустракаюцца добрыя прыяцелькі.
— Была ўчора ў лекара. Сказаў мне, што я цяжарная.
— А хто бацька?
— Гэтага ён мне не сказаў.

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Вельмі шаноўны М. Прускі!

Перасылаю Вам, дарагі Мікола, нашу чарговую падтрымку ў гэтым годзе на выдавецтва вельмі пажаданай і паважанай газэты "Беларускі Дайджэст". Пры гэтым далучаю ахвяру ад др. В. М.

...Працы хапае ўсякае. Думалася, як пайду на пэнсію, буду мець многа часу, нават і кніжку напісаць пра сваё жыцьцё. Ды дзе там той час дзяецца? Пакруціш галавою і падумаеш, як ён хутка ўцякае.

Заўважаю, што яшчэ добра выглядаеце на здымках. Трымайцеся, і за ўсё дзякуйце Богу... Усяго найлепшага жадаем Вам і сямейцы. Дай Божа Вам здароўя і сілы ў працы на славу Богу і Бацькаўшчыне! Жыве Беларусь!

а. М. і В. Б.

*Дзякуем за цёплыя і прыгожыя словы. Час каб напісаць кніжку абавязкава трэба знайсьці. Гэта вельмі важная справа. Ня кожнаму Бог прысвоіў талент да пісаньня, а таму гэты дар трэба выкарыстаць. Дзякуем за ахвяры і жадаем усяго найлепшага.*

**Шматпаважаны Сп. Прускі!**

Некалькі месяцаў таму назад з вялікім задавальненьнем пачаў атрымлівацъ "Беларускі Дайджэст". Яго чытаюць ня толькі мае сябры, аб'яднаныя ў Беларускім Эстонскім Згуртаваньні «БЭЗ», але і шмат хто з нашых землякоў у Эстоніі. Усе адзначаюць, што газэта і цікавая, і патрэбная. Асабліва ў той час, калі з Радзімы да нас сюды вось ужо некалькі гадоў запар ня можа патрапіць ніводнага друкаванага слова. Чаму гэта так адбываецца — тлумачыць ня трэба. Вусаты "бацька" ня тое што газэты ды часопісы, а нават людзей хутка перастане выпускаць за межы Бацькаўшчыны. Суцяшае толькі тое, што час яго ўлады ну ніяк ня можа быць доўгім. Вернецца зноў на Беларусь, як яе сьцяг, так і яе гэрб, а Лукашэнка калі і застанецца ў яе гісторыі, дык самае большае — у анекдотах ды ў дзіцячых страшалках. Іншага месца яму і быць ня можа!..

З нагоды нашага больш блізкага знаёмства дасылаю ў Вашу газэту мой верш, які яшчэ нідзе не друкаваўся.

**ПАЖАДАНЬНЕ ВЫБАРШЧЫКАМ**

Наш прэзыдэнт не паважае нашу мову.
Ён кажа: "Бедная, мужыцкая яна..."
Ён кажа: "Так, яе мы возьмем пад ахову
І зробім так, каб перад ёй была... сьцяна!

Сьцяна ахоўная абхопіць нават вёску!
Калі-ж пачнуцца ў ёй двухмоўныя баі,
Мы ў "запятую" перарobім нашу "коску"
І пазьбіваем моўчкі кропачкі над "і".

І "у" кароткае, дазвольце вам заўважыць,
Ды і апострафу ня робячы пазык...
Бо мне разумныя даўно ўжо людзі кажуць,
Каб браў на службу я "могучий их язык"!"

...Я гэта слухаю і дзіву не даюся —
Калісьці горшае казалі з вышыні.
А ў дзень сягоньняшні на роднай Беларусі
Чаго-ж чакаць нам, спадары, ад старшыні?!

Хто абіраў яго, той ведаў, што ў калгасе
У лексікон ён слоў прыдбаў зусім няшмат,
Бо там ня трэба клапаціцца аб запасе,
Дзе справу рухае ці лаянка, ці мат.

Але-ж, спадарства! Не свару вас вельмі шпарка,
А толькі раю — Як паедзе зноў страха,
Вы абярыце прэзыдэнтам лепш... сьвінарку,
А як не справіцца, дык клічце пастуха!..

Чакаем наступных нумароў "Беларускага Дайджэсту". Жыве Беларусь!

У. Д.

*Дзякуем за ліст і верш. Газэту будзем высылаць.*

**Дарагі Мікола!**

Дзякую за газэты... Пры гэтым перасылаю ахвяры на газэту ад 6 (шасьці) асобаў. Газэту высылаю таксама ў розныя бібліятэкі.

Бачу, што ты маеш шмат сілы і энэргіі, каб спраўляцца з усім тым, чым ты займаешся. Жадаю Табе і Тваёй сямейцы найлепшага здароўя і ўсяго найлепшага.

З пашанаю да Вас, М. С.

*Дзякуем за сталую падтрымку нашага выдавецтва. Ад нас дзякуй усім іншым ахвярадаўцам. Жадаем Вам усім усяго найлепшага.*

*Дарагія Землякі!* **Падтрымоўвайце выдавецкі фонд нашае газэты!..**

Шаноўны спадар Прускі!

Адначасова з гэтым лісьцікам пасылаю табе й «першую ластаўку», якая вывялася ў Беларусі з гнязда "тарашкевіцы". Можа, ты з ласкі сваё зробіш аб гэтым паведамленьне ў "Беларускім Дайджэсце"?.. Пры гэтым далучаю ахвяру...

Шчыра дзякую, што не забываеш прысылаць мне вельмі пачытны "Беларускі Дайджэст".

З пашанай, Я. З. (А. Д.)

*Дзякуем за ліст. У папярэднім № нашай газэты мы зьмясьцілі невялікую зацемку пра выхад Вашай прыгожай кнігі. А цяпер падаем адрас адкуль кнігу* ***«Вятрыска з радзімай краіны»*** *можна выпісаць:*

A. Danilovich
34 Richer Ave.
Milltown, N. J. 08850

**Паважаны Сп. Прускі!**

Шчыра дзякую Вам за газэту "Беларускі Дайджэст". Залучаю ахвяру. Усяго Вам найлепшага!

З глыбокай пашанай, Ю. Н.

*Дзякуем за Вашу памяць. Нам патрэбныя адрасы людзей з Каліфорніі, якія чытаюць па-беларуску. А так жадаем Вам усяго найлепшага.*

**Дарагі Мікола!**

Перасылаю ахвяру на газэту і жадаю добрага здароўя, каб і далей мог прадаўжаць так карысную і патрэбную працу для дабра нашай многапакутнай Беларусі.

З пашанай, Б. Д..

*Дзякуем за ахвяру і таксама жадаем Вам усяго найлепшага.*




Нядаўна выйшла з друку кніга *«Беларускае Студэнцтва на Чужыне»* Кніга чытаецца лёгка і цікаўна. 206 стар. 1996 г. Цана: $15.oo Кнігу можна заказаць у др. Барыса Рагулі або ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва.




## Medals Standing

| Nation | G | S | B | Total |
|---|---|---|---|---|
| United States | 24 | 28 | 13 | **65** |
| Germany | 10 | 12 | 19 | **41** |
| Russia | 19 | 13 | 8 | **40** |
| China | 12 | 14 | 8 | **34** |
| Australia | 7 | 9 | 17 | **33** |
| France | 13 | 6 | 13 | **32** |
| Italy | 11 | 6 | 9 | **26** |
| Romania | 4 | 5 | 6 | **15** |
| Cuba | 3 | 5 | 7 | **15** |
| Canada | 2 | 7 | 6 | **15** |
| Poland | 6 | 5 | 3 | **14** |
| Netherlands | 2 | 3 | 8 | **13** |
| Ukraine | 5 | 2 | 5 | **12** |
| Hungary | 4 | 3 | 5 | **12** |
| South Korea | 3 | 5 | 4 | **12** |
| Belarus | 1 | 4 | 7 | **12** |
| Japan | 3 | 4 | 3 | **10** |
| Brazil | 2 | 2 | 5 | **9** |
| Britain | 1 | 3 | 5 | **9** |
| Bulgaria | 0 | 4 | 4 | **8** |

і далей...

Канчатковы лік ачкоў падамо ў наступным № нашае газэты.

Гэта лік ачкоў на 31-га ліпеня 1996 г.